

Кубак „Нівы”➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Раенская гадавіна➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 26 (3085) Год LX | Беласток, 28 чэрвеня 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Своеасаблівыя майстар-класы ўнеслі ў жыццё маладых людзей подых беларускасці, сяброўства і ўласнай вартасці. Тэатральныя, літаратурныя ці мастацкія заняткі, напрыклад, распісванне прыдарожных крыжоў, засталіся ў іх памяці па сёння. Сёлета адзначаем юбілей дваццацігоддзя Сустрэч «Зоркі». Не кожны меў магчымасць пабываць на культавых ужо майстар-класах, аднак, для кожнага свядомага беларуса той летнік застаецца адной са знакавых ініцыятыў, якая моцна пасадзейнічала на цэлае нашае асяроддзе.**




# Добрай зорцы 20 гадоў

Усё пачалося ў 1995 годзе. Першыя Сустрэчы «Зоркі» адбыліся 28 жніўня. Аднак пакуль выспела гэтая ідэя, **Ганна Кандрацюк-Свярубская**, ініцыятарка Сустрэч, супольна з Лявонам Тарасэвічам пабывала на летніку, які арганізаваў асяродак «Пагранічча» ў Сейнах. Гэта быў штуршок, каб падобны летнік сарганізаваць для беларускіх дзяцей.

— Першыя Сустрэчы былі сімвалічныя, — кажа Ганна Кандрацюк, — таму што мы размалёўвалі крыж у вёсцы Меляшкі. Мы рабілі гэта на грамадскіх пачатках. Дзеці, якія да нас прыехалі, а гэта было амаль 30 карэспандэнтаў «Зоркі», асабліва многа было дзяцей з Бельшчыны, жылі ў людзей. Усе вельмі перажывалі гэтую падзею — жыхары падрыхтаваліся да прыняцця такой групы. Думаю, што было такое аб'яднанне старэйшага пакалення і дзетак, якія вывучалі беларускую мову.

Другой асобай, якая дала пачатак Сустрэчам «Зоркі», быў **Лявон Тарасэвіч** — сусветнага маштабу мастак. Пад яго кіраўніцтвам іконкамі былі распісаны першыя крыжы, якія па сёння сведчаць пра нашую прысутнасць тут.

— Сустрэчы «Зоркі» і дадатак для дзяцей у «Ніве», якія вядзе Гандзя, гэта такая плошча, на якой рыхтавалася актыўная частка беларускай моладзі, — кажа Лявон Тарасэвіч. — Таксама як на рэйдах «Бацькаўшчына» рыхтавалася маладая кадра пазнейшай беларускай інтэлігенцыі. Гэта, на маю думку, такая натуральная актыўнасць моладзі, якую добра што Гандзя вядзе.

Сустрэчы «Зоркі» гэта своеасаблівыя майстар-класы, якія папаўняюць урокі беларускай мовы ў школах. Дзеці маюць непаўторную магчымасць цягам года выявіць свае журналісцкія здольнасці, дасылаючы тэксты, якія друкуюцца на старонках «Зоркі». З ліку найбольш актыўных карэспандэнтаў выбіраюцца пазнейшыя ўдзельнікі летніка.



— Што ж з адукацыі, калі няма свядомасці, — кажа Лявон Тарасэвіч. — Гэта, што маладыя людзі могуць у час Сустрэч «Зоркі» крышталізавацца і высвятляць сваю свядомасць, гэта вельмі добрае звяно, якое вядзе Гандзя.

Галоўнай ініцыятаркай Сустрэч з'яўляецца Ганна Кандрацюк-Свярубская — рэдактар дзіцячага дадатку «Зорка» ў тыднёвіку беларусаў у Польшчы «Ніва». Аднак нельга ўявіць сабе летнік без прысутнасці настаўніцы бельскай «тройкі» **Валянціны Бабулевіч**.

— Я сама пачала працаваць у школе, калі Ганна пачала арганізаваць Сустрэчы «Зоркі», — кажа Валянціна Бабулевіч. — Я не паехала на першыя Сустрэчы, толькі выбрала вучняў, якія маглі прыняць удзел у першых майстар-класах. Наш тадышні дырэктар Васіль Ляшчынскі падкрэсліваў, што гэта вельмі файная ідэя.

На працягу дваццаці гадоў на Сустрэчах «Зоркі» выхавалася шмат актыўных і свядомых беларусаў. Некаторыя сталі журналістамі, так як Тамаш Саевіч, карэспандэнт Польскага радыё ў Кітаі ці, хаця б, палова персанальнага саставу Рэдакцыі праграм нацыянальных меншасцей на Радыё Беласток.

— Ад пачатку я мела канкрэтную задачу, — кажа Ганна Кандрацюк. — Мне ішло пра тое, каб зацікавіць малодшых чытачоў «Зоркі». Дзеці, якія прыязджалі, былі карэспандэнтамі «Зоркі». Яны па сённяшні дзень засталіся з намі. Некаторыя нават сталі журналістамі. Ад пачатку мы рабілі штосьць, што, думаю, павінны рабіць усе беларускія інтэлектуалы і дзеячы — займаліся архіваваннем. Архіваваннем таго, што робім, сваіх усялякіх дзеянняў.

Калі сёння глядзім на архіўныя матэрыялы — тэксты ў «Зорцы», здымкі — бачым, як усё развівалася і мянялася. Дзеткі, якія выхоўваліся на «Зорцы», атрымалі больш шырокі спектр ведаў пра жыццё і беларускі свет, дзякуючы чаму адкрывалі сябе і пазнавалі сваё. Сёлетнія Сустрэчы «Зоркі» праходзілі ад 15 да 20 чэрвеня ў Ляўкове, што побач Белавежскай пушчы. Цягам пяці дзён цяперашнія ўдзельнікі юбілейных Сустрэч мелі магчымасць бліжэй пазнаёміцца з важнымі асобамі, якія былі звязаныя з летнікам. Па прафесійных прычынах не мог на Сустрэчы прыехаць Лявон Тарасэвіч. Аднак спецыяльна для ўдзельнікаў даў ён інтэрв'ю, у якім выказаў свае ўражанні і спадзяванні, жадаючы далейшай плённай працы на беларускай ніве. Асабліва цёпла выказаўся пра ініцыятарку Сустрэч.

— Я хацеў бы, каб Гандзя была заўсёды Гандзяй. А дзеці, каб заўсёды былі такімі самымі шчырымі маладымі беларусамі.

Мне, як удзельніцы Сустрэч «Зоркі», застаецца далучыцца да пажаданняў прафесара Тарасэвіча. Да сустрэчы на чарговых Сустрэчах!

**Уршуля ШУБЗДА**



# ЗЯМЛЯ кантрабандыстаў

Неафіцыйнай карткай сучаснага прыпамежнага Гродна сталі... кантрабандысты. Дакладней, яны тут былі заўсёды. Як жылося гэтым людзям, што яны везлі праз мяжу і чым рызыкавалі, — нам распавядае гісторыя трох стагоддзяў памежжа.

## Хабар пачалі браць адразу, як стварылі мытню

Дзейнічаць нелегальныя таварныя шляхі пачалі, мабыць, з канца XVIII стагоддзя. З гэтага часу Гродна апынулася ў складзе Расейскай імперыі па выніках падзелу Рэчы Паспалітай. І тут жа, каля горада, быў арганізаваны мытны пункт на мяжы з Прусіяй па загадзе Кацярыны II. Ну, і пайшло... Тканіна, мануфактура, жаночыя ўпрыгожванні... Брычкі з разнастайнымі попытавымі таварамі, якія ўвозіліся на тэрыторыю імперыі, імкнуліся абысці падаткі. Гісторык, дацэнт Гродзенскага аграрнага ўніверсітэта Аляксандр Радзюк гаворыць, што першымі мытнікамі былі расійскія казакі ды службоўцы розных рангаў, але і з імі можна было дамовіцца.

Так, архіўныя звесткі захавалі рапарт некага аб'ездчыка Мікалая Шавельскага за 1804 год, у якім служачы скардзіцца на назіральніка Ласоснінскай дыстанцыі. Маўляў, што апошні не толькі прапускае фурманкі з таварамі, але і сам іх возіць у абыход пошлін. У рапарце аб'ездчык клянецца ў вернасці абавязку, а ў якасці доказу прыводзіць сваю адмову прапусціць дзесяць брычак за хабар у памеры 15 рублёў, што яму прапанаваў назіральнік. Далейшая гісторыя фігурантаў гэтай справы невядомая, але даследчыкі сцвярджаюць, што купцоў за такія рэчы чакала канфіскацыя аж да жылля і ўсёй маёмасці, сялян, якія дапамагалі пры перапраўцы кантрабанды — розгі, а служачых — турма або ссылка. За рэдкім выпадкам дзёрзкія і адчайныя рызыкавалі пазбавіцца жыцця, бо мытнікам і памежнікам забаранялася выкарыстоўваць зброю. Здаралася, што захопленыя знянацку кантрабандысты забівалі на смерць службоўцаў.

Тагачасныя дакументы сведчаць аб усялякіх злоўжываннях, звязаных з пропускам забароненых тавараў, а такімі былі бydла, коні ды медныя манеты. Вядома, што ў той час на мытні, нават, дзейнічала стайня. Напалеон рыхтаваўся да вайны, і коні ў Прусіі былі ў цане. Сяляне, якіх заставалі знянацку за забароненай перапраўкай коней, уцякалі, кідаючы жывёл. І апошнія адпраўляліся ў стайню на мытні, чакаючы аўкцыёнаў, з якіх прадавалася ўся канфіскаваная кантрабанда. Сам Кутузаў, які ў той час з'яўляўся віленскім губернатарам, рапартаваў, што нічога не можа зрабіць з незаконным гандлем коньмі. А вось з тагачаснай Прусіі вывозіліся медныя манеты. У імперыі іх можна было прадаць даражэй за намінал.

## Кантрабандную гарэлку везлі з-за бугра...

— Відавочна, квітнець кантрабанда пачала на розніцы цэн. Асабліва гэта датычылася алкаголю, бо за яго ў Расійскай імперыі трэба было плаціць акцыз, — распавядае Аляксандр Радзюк.

Арак, або гарэлку, і ром у бочках пераносілі або перавозілі на фурманках праз лясы гараджане і сяляне. Потым гэты тавар апынаўся ў габрэйскіх лаўках. Справа ў тым, што тагачасная мяжа адрознівалася ад сучаснай: пройдзеш па лясных сцежках у раёне вёскі Ласосна і ўжо ў Польшчы. З 1815 года тут Аўгустоўская губерня аддзяляла царскую Расію ад Польскага каралеўства. Віз ніякіх не патрабавалася, ніякага калючага дроту не было, рэдкія патрулі па лясным гушчары не маглі перакрыць кантрабандных шляхоў. Вядома, што мытнікі рабілі зямлянкі, але, чакаючы кантрабандыстаў зімой, нават замярзалі насмерць. А чыноўнікам заставалася пісаць скаргі, што гарадзенцы ходзяць без дазволу ў Польшчу, п'юць там гарэлку і з сабой прыносяць.

## ...а ў горадзе дзейнічалі даносчыкі

Змагаліся з нелегальным таварам камеральнымі праверкамі. Праводзілі іх спецыяльна адкамандзіраваныя з Пецярбурга службоўцы. Так, у гарадзенскіх лаўках і корчмах шукалі нерастаможаныя рэчы. Уладальнікамі гандлёвых месц у большасці былі габрэі. Спадзяючыся на шабат, „аблавы" праводзілі ў суботу. Але падлавіць гандляроў было не так проста.

— Па-першае, больш чым у палове выпадкаў аб праверках станавілася вядома па розных каналах. Па-другое, хоць і ў пячы нельга было паліць габрэю ў шабат, але ж ён хутка збіраў цюкі з кантрафактам і цягнуў іх хаваць, — дадае Аляксандр Радзюк.

У пратаколах таго часу фігуруе шмат выяўленняў нерастаможаных тавараў на тэрыторыі Гродна па наводцы, а сетка агентуры была вялікай. Напрыклад, такім чынам габрэй Іосель пазбавіўся паркалю, крухмальнага кісялю, парчы, якія хаваў у навалачкі ад падушкі ў сваіх пакоях, а таксама палатна, мужчынскіх кашуль, мяшкоў і міла ў вазах на двары. Канфіскацыя пацягнула больш, чым на 200 рублёў, калі сярэдняя гадавая зарплата мытніка складала 150

працяг ☞ 4

# Кляпаць халтуру



Праца працы няроўная. Кожны чалавек мае сваё ўяўленне пра яе, што не значыць, што ён умее вызначыць яе сутнасць. Ды што там па вызначэннях, калі відовішчнае выпорванне жылаў у Польшчы надалей з'яўляецца мерай чалавечай працы. Культ працы, асабліва ў Польшчы абагаўленне налягання на працу перакладваецца ў рэйтынгу найбольш працавітых краін на другое месца краіны ў свеце. Як гэта маецца да эканамічнага становішча палякаў? Іхняга багацця? У мінулым годзе валавы ўнутраны прадукт вырас на 3,4 працэнта. Тэмп эканамічнага росту быў такім чынам у два разы хутчэйшы, чым у папярэднім годзе. Толькі што ў адпаведнасці з апошнімі дадзенымі Цэнтральнага статыстычнага бюро ў 2014 годзе ва ўмовах крайняй беднасці жывуць да 2,8 мільёна чалавек. У той жа час убоства вызначанае гэтак званым экзістэнцыяльным мінімумам разлічаным адпаведнай дзяржаўнай устаноўай, для адной гаспадаркі ўсталявана стаўкай у 540 злотых, а для сям'і з чатырох асоб (двое дарослых і двое дзяцей) у 1 458 злотых. Хай бы «адпаведны» чыноўнік спрабаваў выжыць за 540 злотых! Памерці ад голаду не памрэ, але ніколі не будзе ў яго дастаткова, каб наесціся. Ну, хіба што салам і хлебам. Не кажучы ўжо пра тое, што з такім марным бюджэтам будзе ён пастаянна адключаны ад выгод цывілізацыі і культуры. Бо як з гэтага ўскубнуць грошы, каб змагчы заплаціць за тэлефон, за камп'ютар? Як уварваць некалькі злотых на кіно ці тэатр? За што паехаць хоць раз у жыцці за мяжу?

Але вось што цікава, што беднасць не ўплывае на ўзровень беспрацоўя. У снежні 2014 года было на каля 333 тысячы беспрацоўных менш, чым за той жа перыяд папярэдняга года. У той жа час колькасць людзей, занятых у гаспадарцы, павялічылася на 156 тысяч. Парадаксальна, аднак, нягледзячы на эканамічны рост краіны і зніжэнне ўзроўню беспрацоўя, паглыбілася экзістэнцыяльная беднасць. Гэта тлумачыцца тым, што эканамічнай выгадай карыстаюцца тыя, якім уко добра. І гэтыя бедныя бядняюць яшчэ больш, хоць на працы, калі яны яе маюць, не ашчаджваюцца ні на ёту. Мабыць, яны нават больш перагружаныя, чым іх больш высокааплатныя кіраўнікі.

Праца працы няроўная. Так як заработкі працы, ці праца аплаце. У любым выпадку, за гэтым стаіць нейкая абыякавасць, пасрэднасць. Цяпер пасрэднасць лепш вызначае паняцце неэфектыўнасці. Мерай працы павінна быць яе эфектыўнасць, а не відовішчнасць. Некаторы час таму мая пажылая суседка здзівілася, калі на яе цікаўнае пытанне з чаго я ўтрымліваю сябе, я шчыра адказаў, што з працы! — Але ж не відаць, каб ты працаваў, — абурылася маімі словамі. На самой справе я прызнаў у сваіх думках рацыю. Часам луплю некалькі гадзін беспрастанку ў клавіятуру камп'ютара. Кожны дзень. Тым не менш вёска, дзе я жыву, не бачыць маёй працы. Таксама і яе наступстваў. Няма ў мяне аўтамабіля з прыбамбасамі, ні новага плота. Ці мая праца абцяжарана сізіфавай абыякавасцю? Як суботнікавыя намаганні беларусаў?!

Але што я тут пра Беларусь... Гэтае суботнікавае шаленства бачу я кожны ўік-энд у маёй вёсцы. Яно пачынаецца ў пятніцу ўвечары, калі ў родныя гнёзды злятаюцца свойскія мігранты — зараз гараджане. Яны ледзь паспеюць скінуць гарадскія шматкі і абы-што перакусіўшы, зараз жа запускаюць рухавікі касілкак, трактароў, піл... Ужо кудысьці пруць. Тут падкосяць газон пад хатай, там падараюць, там прыб'юць дошку, іншую падрэжуць, там прасвідруюць дзірку. І ўсё гэта ў нейкім амоку, вар'яцтве. Здавалася б, што расце ў агароджы штосьці памерам Палаца культуры і навукі. Але праходзіць шумная пятніца, і нічога. Потым зноў аднолькавая сізіфавая субота. І ўсё. Што недаступанае, будзе дастуканым. Што не цяпер, то праз тыдзень. Але, вядома, у поце твару, не складаючы рук. Без эфекту. Без прыбытку.

У чалавечым менталітэце функцыянуе вельмі моцная неабходнасць аддзялення сакральнага ад таго, што з'яўляецца звычайнай справай. Што святое, тое падкрэслена чалавечай увагай, прыпаднятае над паўсядзённае жыццё. На баку святасці стаяць чалавечыя каштоўнасці, на другім баку — збітыя відавочнасці. Праца ў Польшчы знаходзіцца ў святой прасторы. Асвячаюць яе чалавечы мазоль, высакародныя высілкі. Але ў той жа час яна зводзіцца да ўзроўню прафануму, апаганенасці. Таўкуць яе тупа, як штодзённы пацер. Абы-як. Каб іншыя бачылі і чулі нашу рупнасць. Толькі нашто яна для каго-небудзь? Тая проста абы-якая рупнасць — абы-якая праца!?.

Мірaслаў ГРЫКА



Вачыма еўрапейца

# Эмацыйная маніпуляцыя

Ці хацеў бы я быць згвалтаваным атрадам «Бурага»? Не хацеў бы. Ці хацеў бы я выбраць, якое з маіх дзяцей мае быць спаленым жыўцом атрадам «Бурага»? Не хацеў бы. Да гэтых і падобных унутраных дыялогаў прымушалі мяне рэалізатары спектакля-гульні, які я, нарэшце, паглядзеў, а менавіта «Метады рэгіянальных устаноўак» у рэжысуры Міхала Станкевіча. Яго прэм'ера адбылася яшчэ ў лістападзе мінулага года ў беластоцкім «Арсенале-Старой электрастанцыі». На гэты раз, у рамках завершаных нядаўна Дзён сучаснага мастацтва, я пайшоў на згаданы паказ, на гэты раз прадстаўлены на малой сцэне Падляшскай оперы і філармоніі. Ужо раней даходзілі да мяне розныя меркаванні аб праекце, які засяроджваецца на аповедзе пра два дні гэтак званага рэйду Рамуальда Райса «Бурага». Спасылаецца ён на 29 студзеня 1946 года, калі камандаваны ім атрад НЗВ (Narodowego Zjednoczenia Wojskowego) выканаў экзекуцыю беларускіх вазакоў у лесе недалёка ад вёскі Пухалы-Старыя і 2 лютага, на свята Стрэчання, калі мела месца пацыфікацыя вёсак Зані і Шпакі. Я чытаў інфармацыю пра спектакль яго творцаў з зацікаўленнем: «Спектакль у наватарскі спосаб спалучае ў сабе дакументальны тэатр з удзелам у п'есе, а адначасова разважае важкія сацыяльныя пытанні», «гэта перфарматыўны праект, які кранае этнічныя і рэлігійныя канфлікты. Дакументальны пласт кранае праблему памяці міжэтнічных адносін на польска-беларускім памежжы падчас Другой сусветнай вайны». Я пачуў мудрыя словы рэжысёра, апублікаваныя ў інтэрнэце, што «канцэпцыя праекта аснавана на механізме прынясця і выконвання сацыяльных роляў, у прыватнасці ролі ката і ахвяры» — і, што асабліва зацікавіла мяне, — што «перформенс дазваляе тэставаць межы ўлады і яе ролю ў дачыненні да чалавека». Тут, у кантэксце тэатральнай падзеі, якая адносіцца да расправы Рамуальда Райса з мірным насельніцтвам, заінтрыгавала мяне асабліва паняцце «тэставаць».

Я прыняў удзел у праекце ў якасці аднаго з назіральнікаў, які пасіўна ўслухоўваўся ў зверскія прыклады дзеяння атрада «Бурага» і ва ўказанні акцёра-апавядальніка, «майстра цырымоніі», дзесяццю гледачам-«удзельнікам», якія раней выказалі жаданне выступіць у ролях. Такая канвенцыя гульні (апавядальнік-удзельнік), як мяркавалася, мела «дазволіць удзельнікам прыгледзецца сваім рэакцыям у складаных грамадскіх канфліктных сітуацыях». Седзячы сярод публікі, я памятаў таксама аб прачытанай раней парадзе: «Гульня палягае на высвечванні становішчам і атмасферай, і, перш за ўсё на тонкім, індывідуалізаваным працэсе, які адбываецца ва ўяўленні кожнага з удзельнікаў (...). Мы хочам, каб вы выкарыстоўвалі сваю інтуіцыю, заўвяршалі сітуацыю, шукалі схаваных ключоў і сэнсаў, прымянялі розныя перспектывы, будавалі свае асабістыя «сцэны». Мы хацелі б, каб завязкі перажыванняў развіваліся ўнутры ўдзельнікаў, каб вы праз прыпынак на розных стадыях старанна прыглядаліся самім сабе, адкрываючы сябе самога».

Я мог бы нават паддацца наўмыснаму маніпуляванню, паддацца загадам акцёра-апавядальніка, але дзесьці ў спектаклі-гульні гучалі іншыя, фундаментальныя — нават не адказы, а пытанні, якія тычацца ўкінутай тэмы: некалькі прыкладаў закатавання праваслаўных жыхароў Беласточчыны, беларусаў, пацыфікаваных «Бурым» вёсак. Я з ахвотай паддаўся б маніпуляванню, калі б спектакль не абмяжоўваўся толькі да «гульні» маімі эмацыйнымі станамі, напорыстага прымусу, каб я выказаў у сабе спагаду ў адносінах да ахвяр генацыду і яе адсутнасць у сувязі з іх катамі праз адзін аповед пра здарэнні амаль 70-гадовай даўнасці. Ці я раздражнены, спытаў мяне адзін калега-журналіст пасля выхаду са спектакля-гульні. Так. Але можа на самой справе — як сцвярджалі пасля выхаду іншыя пасіўныя ці актыўныя гледачы — гэта ўрок гісторыі? Але на ўроку гісторыі, усё ж, гучаць пытанні аб прычынах, а не толькі наступствах. Я не патрабую асуджэння дрэнных, шкадавання добрых, і не раздражняе мяне толькі само сцвярджэнне фактаў, але якраз спроба маніпулявання маімі эмоцыямі не ў імя шукання гістарычнай праўды, а толькі ў імя якраз тэатралізаванай гульні дзеля дзівоснага — у мяне складаецца такое адчуванне — задавальнення яе аўтараў.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Дзяўчаты спаборнічалі за кубак «Нівы»



Усе каманды з апекунамі (злева – Эдвард Тэрэбун)

**VIII Агульнапольскія міжгімназічныя спаборніцтвы дзяўчат па валейболе за кубак тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва»** прайшлі 10 чэрвеня ў Комплексе школ у Кляшчэлях. Арганізатарамі спартыўнага мерапрыемства былі настаўнікі фізкультуры мясцовай школы Эдвард Тэрэбун і Ілона Пукалевіч, а таксама дырэктар школы Славамір Трашчотка. Ужо чацвёрты раз валейбольныя гульні гімназістак са школ, у якіх вядзецца навучанне беларускай мове, адбыліся ў Кляшчэлях. Спачатку тры разы праходзілі яны ў Бельску-Падляшскім, а ў мінулым годзе — у Гайнаўцы.

Міжгімназічныя спаборніцтвы па валейболе ў Кляшчэлях гэта перш за ўсё добрая гульня і цікавая сустрэча ў вялікай грамадзе дзяўчат. Дамоў гімназісткі вярталіся з кубкамі, дыпломамі і медалямі.

— Варта сустракацца вучаніцам, каб пагуляць у валейбол. Важна, што маладыя людзі з гімназій, у якіх выкладаецца беларуская мова, спаборнічаюць між сабой на спартыўнай пляцоўцы, ад чаго застануцца знаёмствы на даўжэйшы час. Мы ў нашай школе чацвёрты раз ладзім валейбольныя спаборніцтвы дзяўчат за кубак «Нівы» і рады супрацоўніцтву з тыднёвікам, — заявіў дырэктар Комплексу школ у Кляшчэлях **Славамір Трашчотка**, які адкрыў спаборніцтва.

Дырэктар Трашчотка з'яўляецца заадно настаўнікам беларускай мовы. Ён задаволены, што яго вучаніцы, якія ходзяць на заняткі беларускай мовы, паспяхова ў мінулых гадах і сёлета выступалі ў школьнай валейбольнай камандзе.

— Да ўдзелу ў валейбольным турніры мы выслалі запрашэнні ў школы з беларускай мовай, у тым ліку ў Дубічы-Царкоўныя, Орлю, Міхалова, Гарадок. У гэтым годзе да турніру прыступілі чатыры каманды. Яны зараз гуляюць кожная з кожнай. Арганізуем 6 матчаў. Калі б да турніру прыступіла больш каманд, трэба было б спаборніцтвы арганізаваць у іншай, вялікай спартыўнай зале. Мы выступілі да адпаведных спартыўных улад, каб дазволілі нам карыстацца назвай «агульнапольскія спаборніцтвы», так як робяць іншыя нацыянальныя меншасці ў Польшчы, і атрымалі згоду. Першы раз наш турнір мы назвалі Агульнапольскімі міжгімназічнымі спаборніцтвамі дзяўчат па валейболе за кубак тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва», — сказаў настаўнік фізкультуры **Эдвард Тэрэбун** — галоўны арганізатар валейбольных гульняў. — Першынство выступіць у нашай валейбольнай камандзе мелі дзяўчаты, якія вучацца беларускай мове і трэніруюцца па валейболе. Дзяўчаты спаборнічаюць за перамогу, але самае важнае гэта добрая супольная гульня, інтэграцыя моладзі і настаўнікаў са школ з беларускай мовай. Наконт беларускага характару спаборніцтваў вельмі добра выказаўся наш дырэктар Славамір Трашчотка, адкрываючы мерапрыемства.

Падчас спаборніцтваў дзяўчаты маглі паглядзець выступы вучаніц з іншых каманд, паразмаўляць, з'есці разам са сваімі настаўнікамі абед.

— Мы дзякуем «Ніве» як галоўнаму спонсару спаборніцтва. Арганізацыю турніру мы ўспамаглі таксама бюджэтнымі сродкамі школы і гміны. Усе каманды атрымалі кубкі і дыпломы, а пераможныя каманды — медалі, — удакладніў Эдвард Тэрэбун.

Дзяўчаты гулялі на спартыўнай пляцоўцы заўзята. Падчас адных матчаў перамога давалася лёгка, а падчас іншых выйгрыш не быў вядомы практычна да канца. У мінулых гадах перамагалі валейбалісткі з Кляшчэляў. Перамаглі таксама ў гэтым годзе. Было відаць, што валодаюць яны добрай тэхнікай гульні і ў час матчаў удала супрацоўнічаюць у камандзе. Валейбол, гэта перш за ўсё камандная гульня. Добрае тэхнічнае абучэнне паасобных валейбалістак вельмі дапамагае, але найчасцей не вырашае аб перамозе. У Падставовай школе кляшчэлеўскія валейбалісткі трэніраваліся пад кірункам настаўніцы фізкультуры Ілоны Пукалевіч, а ў гімназіі на ўроках фізкультуры і падчас дадатковых пазаўрочных заняткаў іх трэнерам быў Эдвард Тэрэбун. Валейбалісткі з Кляшчэляў занялі таксама чацвёртае месца на Ваяводскай гімназіядзе па валейболе.

— Каманды, якія ў гімназіядзе занялі першыя тры месцы, рабілі набор у свае каманды з вялікіх, у параўнанні з невялікай Кляшчэлеўскай гмінай, тэрыторый. Але ў папярэдніх гадах нашы валейбалісткі займалі лепшыя месцы ў гімназіядзе. Лепшай нашай валейбалістцы Наталлі Леанюк запрапанавалі вучобу ў спартыўным класе ў Венграве. Гарантуецца ёй бясплатныя інтэрнат і харчаванне, каб толькі Наталля працавала ў карысць каманды Венграва, — сказаў Эдвард Тэрэбун.



Перамаглі валейбалісткі з Гімназіі ў Кляшчэлях. Медалі ўручаюць дырэктар Славамір Трашчотка і настаўніца фізкультуры Ілона Пукалевіч

— Я рада, што перамагла нашая каманда. Аднак самай важнай для нас была добрая супольная гульня. Я хачу надалей займацца валейболам і яшчэ больш інтэнсіўна трэніравацца ў камандзе Венграва. Калі будзе магчымасць, хацела б спалучыць сваю будучыню з валейболам, — сказала **Наталля Леанюк**, вучаніца Комплексу школ у Кляшчэлях, якая заваявала статуэтку і званне самай лепшай валейбалісткі турніру за кубак «Нівы».

Іншыя гімназісткі пераможнай каманды з Кляшчэль сказалі, што на працягу года многа трэніраваліся і чакалі турніру за кубак «Нівы», які перад канікуламі з'яўляецца своеасаблівым падвядзеннем вынікаў іх трэніровак. Другое месца занялі белгімназісткі з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, якія прайгралі толькі апошні матч спаборніцтваў кляшчэлеўскай камандзе. Трэцяе месца занялі дзяўчаты з Гімназіі № 7 у Беластоку, а чацвёртае — белгімназісткі з Бельска-Падляшскага.

— Да апошняга матчу была надзея на перамогу ў турніры, бо раней мы выйгралі ўсе матчы. Тут цікавае спартыўнае мерапрыемства і мы штогод у ім удзельнічаем. Апрача гульні на пляцоўцы ёсць магчымасць паразмаўляць і радасна правесці час у вялікай кампаніі, — заявілі гайнаўскія белгімназісткі.

— Ідэя спаборніцтваў добрая, бо спатыкаюцца дзяўчаты са школ, дзе адбываюцца ўрокі па-беларуску. У нас белгімназісты і белліцэісты чытаюць «Ніву». Тут змагаюцца яны за яе кубак, што спрыяе яшчэ большаму зацікаўленню беларускім тыднёвікам. Трэба захоўваць нашыя традыцыі і не забываць роднай мовы і культуры, — сказала настаўніца фізкультуры ў гайнаўскай белгімназіі **Бажэна Шакала-Ефімюк**, якой каманда заняла другое месца.

З Гімназіі № 7 у Беластоку выступалі якраз дзяўчаты, якія не вучацца беларускай мове.

— За выключэннем мінулага года, калі я была ў водпуску, мы штогод спаборнічаем у валейбольным турніры і нават занялі раней другое месца. У нашай школе невялікая спартыўная зала і не можам запрасіць на спаборніцтвы па валейболе да сябе. Затое ў гэтым школьным годзе мы наладзілі для нашых гімназістаў, што вучацца беларускай мове, спаборніцтвы па стральбе. Калі будзе спонсар, можна было б арганізаваць такія спаборніцтвы таксама для гімназістаў з іншых школ, дзе адбываецца навучанне па-беларуску, — сказала настаўніца беларускай мовы ў Гімназіі № 7 **Альжбета Рудкоўская**. — Зараз беларускай мове вучыцца ў нас 11 гімназістаў, у тым ліку толькі адна дзяўчына, якая якраз не цікавіцца валейболам. Затое ахвотна прыбылі іншыя дзяўчаты, якіх я трэніравала перад выездам у Кляшчэлі.

— Мы не трэніруемся ў школе як валейбольная каманда, а толькі спатыкаліся перад турнірам. Гуляем у валейбол перш за ўсё на ўроках фізкультуры, але калі наш настаўнік фізкультуры не запрапанаваў нам выезду на нейкі турнір, то рашыліся паехаць з нашай настаўніцай расійскай мовы Альжбетай Рудкоўскай. Нам цікава паслухаць як людзі размаўляюць па-беларуску і цікава было паглядзець па дарозе на ўказальнікі на польскай і беларускай мовах. Беларуская культура нас узбагачае, — гаварылі гімназісткі з Беластока.

— Мы гуляем у валейбол толькі на ўроках фізкультуры. Затое вучні нашай школы перамагаюць падчас спаборніцтваў па гандболе і лёгкай атлетыцы. Свае тэхнічныя недахопы кампенсуем вялікай ангажаванасцю падчас матчаў. Цікава нам таксама паглядзець выступленні іншых дзяўчат. Падчас спаборніцтваў у нас сяброўская атмасфера, — сказалі бельскія белгімназісткі.

— Мы зараз рыхтуемся да спаборніцтваў па лёгкай атлетыцы. Валейбольны турнір першапачаткова быў арганізаваны ў нашай «тройцы» і ў гэтым годзе традыцыйна мы прыступілі да яго, — заявіў настаўнік фізкультуры бельскай «тройкі» **Пётр Нікалаюк-Стасюк**.

Самым лепшым валейбалісткам паасобных каманд — Юліі Багроўскай (Кляшчэлі), Юліце Рыбак (Гайнаўка), Габрыелі Сянкевіч (Беласток) і Эльвіры Андрусевіч (Бельск) — былі ўручаны статуэткі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

2 ☞працяг

# Зямля кантрабандыстаў

рублёў. Здараліся гісторыі, якія даходзілі да смешнага. Так, гарадзенец Іосілевіч данёс на другога жыхара, што той таргуе нерастаможаным фарфорам у сваёй лаўцы. Фарфор канфіскавалі, але хутка вярнулі: уладальнік пацвердзіў законную пакупку і прызнаўся, што Іосілевіч папросту вымагаў у яго грошы за маўчанне. Цікава, але крымінальнае пакаранне за фальшывы данос прадугледжана не было.

З большасці спажывецкіх тавараў у асобную групу кантрабанды выдзяляліся забароненыя літаратура і нават ноты. Тут можна было знайсці і часопіс „Калакол", і брашуры, прысвечаныя французскай буржуазнай рэвалюцыі, і агіткі супраць царызму.

## А ў кантрабандыста жалезныя нервы

Гісторык Аляксандр Радзюк сцвярджае, што шмат гарадзенцаў і сялян прымежжа ў той час жылі за кошт кантрабанды. Гэта не былі вялікія грошы, але добры прыработак. Хутчэй за ўсё, простыя людзі дапамагалі купцам і гандлярам перапраўляць рэчы праз мяжу, бо грошай укласці ў тавар яны не мелі. Калі глядзець на спосаб утойвання кантрабанды, то тут мала што змянілася. Тканіна, абутак, тасьма маглі ўтойвацца ў падвойным дне воза, цукар і гарбата ў камізэльцы пад адзеннем, бутэлькі гарэлкі прыстасоўваліся да пояса, а палатно хавалі ў муляжы дзіцячага скрутка. Квітнела кантрабанда ў Гродне амаль да пачатку XX стагоддзя.

Новы віток кантрабанды прыйшоўся ў памежным Гродне на 1960-я гады, а ў 1980-х гадах горад стаў не неафіцыйнай сталіцай. Гэта эра залатой ліхаманкі. Залатыя вырабы імкнуліся пасці ў заходнюю Польшчу рознымі спосабамі. Мытнікі шукалі золата ў пасажыраў цягнікоў: каштоўнасці хавалі ў хлебабулачных вырабах, дзіцячых цацках, шкарпэтках і кансервах. Па ўспамінах працаўнікоў мытні, парой прыхodзілася праводзіць затрыманых людзей у прыбіральню і чакаць па некалькі гадзін пакуль залатыя ўпрыгожванні не будуць аддадзены „натуральным шляхам". Людзі спрабавалі таемна вывезці іконы і прадметы мастацтва. А з таго боку ў Савецкі Саюз ішло дэфіцытнае на той час адзенне, абутак, біжутэрыя. Мытнікі гавораць, што амаль кожнаму можна было выпісаць штраф за лішнія джынсы.

Пачынаючы з ліхіх 1990-х гадоў нават настаўнікі і медыкі пацягнулі тэлевізары і прасы ў суседнюю Польшчу. „На цыгарэтах і гарэлцы" пабудаваны не адзін дом. Так каля беларуска-польскай мяжы з беларускага боку вырас катэджны пасёлак Каробчыцы, дзе бок аб бок зараз жывуць былыя кантрабандысты і мытнікі.

А ў той жа час у сённяшняй польскай Кузніцы выстройваецца чарга людзей на „Поле цудаў" у чаканні ўзяць у прадпрыемцаў пару маек, спадніц ці ботаў, а калі пашанцуе — планшэт або тэлевізар, ды правезці праз мяжу пад выглядам прыватных рэчаў у абыход мытных пошлін. Ну, вядома, робяць гэта, каб зарабіць капейку. Праўда, скардзяцца сённяшнія кантрабандысты: паляkі даюць велізарныя штрафы за правоз кантрабандных цыгарэт, розніца цэн на паліва мізэрная, беларуская мытня заварочвае тавар ад прадпрымальнікаў. Беларускія мытнікі таксама гавораць, што заробак у кантрабандыстаў не той. Але агаворваюць, што калі не цыгарэты або паліва, то народ прыдумае іншую справу, бо кантрабанду немагчыма перамагчы. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя...

Леся КРУПНІК

# З Аленай Андрэеўнай і бацькамі ў склепе

**У «Склеп з культурай», што ў падвале Пачатковай школы № 4 па вуліцы Чанстахоўскай у Беластоку, аб'яднанне асоб, якія дзейнічаюць дзеля дзяцей вывучаючых беларускую мову, запрасіла на сустрэчу з паэтам Андрэем Хадановічам і Марынай Шодай — выдатнай беларускай выкладчыцай, даследчыцай культуры і перакладчыцай пераважна сучаснай польскай прозы.**

Андрэй Хадановіч нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску. Скончыў філфак і аспірантуру пры БДУ па спецыяльнасці замежная літаратура. Паэт, перакладчык, выкладчык французскай літаратуры. Адзін з лакаматываў сучаснага літаратурнага працэсу ў Беларусі. Выкладае замежную літаратуру ў БДУ. Кіраўнік «Перакладчыцкай майстэрні» пры Беларускім калегіуме. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтра.

Аўтар паэтычных кніг «Старыя вершы», «Лісты з-пад коўдры», «Землякі або беларускія лімэрыкі», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Верлібры», «Несіметрычныя сны», «Дэжавю: перавыбранае», а таксама кнігі дзіцячых вершаў «Нататкі таткі» (выйшла ў 2011 годзе ва Украіне). У 2012 годзе ў перакладзе Хадановіча з французскай выйшла кніга Эрыка-Эманюэля Шміта «Евангелле паводле Пілата». У 2013 г. — зборнік паэзіі і перакладаў «Разам з пылам». Перакладае паэзію з англійскай, французскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай моў. Укладальнік паэтычных анталогій «Сувязь-разрыў / Зв'язокрозрив» (Кіеў) і «Pępek nieba / Пуп неба» (Вроцлаў). Укладальнік і адзін з перакладчыкаў двухтомніка выбраных твораў Збігнева Герберта і Чэслава Мілаша, а таксама кніг выбраных вершаў Канстанты Ільдэфанса Галчынскага («Сёмае неба») і Рышарда Крыніцкага («Дакрануцца»). Пераклаў камедыю Аляксандра Фрэдры «Помста». Укладальнік кнігі выбраных вершаў Максіма Танка «Абвяржэнне». Лаўрэат прэміі часопісаў «Крыніца», «Сучасність» (Кіеў), «Современная поэзия» (Масква, 2007), прэміі «Залаты апостраф» часопіса «Дзеяслоў», прэміі «Крышталь Віленіцы» (Славенія), прэміі імя Збігнева Даміняка (Польшча). Удзельнік паэтычных фестываляў у Беларусі і за яе межамі (у Ірландыі, Калумбіі, Латвіі, Літве, Нямеччыне, Польшчы, Расіі, Славакіі, Славеніі, Украіне, Чэхіі). Пераможца некалькіх міжнародных паэтычных слэмаў. Ягоныя вершы перакладаліся на пятнаццаць замежных моў.

Ідэя сустрэчы ў клубе аб'яднання АБ-БА ўзнікла, як часта бывае, у сеціве. Віцэ-старшыня аб'яднання, настаўніца беларускай мовы з Пачатковай школы № 4 у Беластоку Аліна Ваўранюк:

— Ідэя запрашэння ўзнікла з допісу ў фейсбуку, дзе Хадановіч напісаў пра сваю кнігу для дзяцей. Я напісала ў каментары, што добра было б, каб і ў нас гэтую кніжку пабачылі, а Хадановіч адказаў, што могуць прыехаць. Для мяне гэта адна з найважнейшых культурніцкіх сустрэч, магу смела сказаць, на працягу пару апошніх гадоў. А тым больш прыемна, што гэта наш беларускі паэт, пясняр, бо так пра яго можна сказаць. Я зачараваная яго «Мурамі».

Андрэй Хадановіч:

— Уражанні ад нашай сустрэчы надзвычай пазітыўныя, яно і складана, і радасна, калі і сталыя слухачы, і дзеткі. Ты стаіш і не ведаеш у прынцыпе, як паводзіць сябе, што чытаць: дзіцячыя вершы, дарослыя, на якія тэмы размаўляць. Але неяк само сабой складаецца, і ты выкручваешся, і атрымліваецца добра. Можа яшчэ таму, што быў вядучы цудоўны Мікола Ваўранюк, а можа таму, што побач была жонка Марына Шода. Тут і найважнейшая мая кніга «Нататкі таткі», кніга дзіцячых вершаў, прысвечаная нашай дачцэ Алене Андрэеўне. Праўда, спачатку кніга выйшла ва Украіне, у перакладзе на ўкраінскую мову. Дарэчы, такім жа чынам выйшла мая самая першая кніга ў 2002 годзе: спачатку паўкраінску ў суседзяў, а праз час — і на радзіме... У прынцыпе, чытач, кліент — наш пан. А тут усё рабілася для дачкі. І, калі яна адчувае права першага чытання, першых эмоцый, яна, канечне, можа сказаць. Самы балючы мой досвед: я прыдумаў, як мне здавалася, адзін з найлепшых тэксцікаў у гэтай кнізе — верш пра шакаладную цукерку. І я акрылены: «Вершык! Вершык пра шакаладную цукерку! Хочаш вершык?» А яна: «Не хачу верш пра шакаладную цукерку. Хачу шакаладную цукерку!» Пры ўсёй фантастычнасці дзіцячай літаратуры, жыццё само па сабе такая штука, з якой яшчэ трэба вытрымаць канкурэнцыю. Верш мусіць быць прыгожы, пластычны, як цацка і цукерка, а на іншае не варта і пагаджацца. «Дарослы» пісьменнік можа сказаць: «Мяне не зразумелі!» З дзіцёнкам — не пройдзе, не спадабалася з першай секунды — да пабачэння! Кожны дарослы паэт, калі пашанцуе, мае шанц зрабіцца татам — адкрыць для сябе новы свет, новую абсалютна непаўторную слухачку, музу і натхняльніцу. Так здарылася са мной і маёй прыўкраснай дачкой, якой нядаўна споўнілася 9 гадоў. А кніга вершаў пісалася, калі ёй было 3, 4 гады, 5, 6, 8. Можна сказаць, што аўтар рос разам з музай і натхняльніцай.

Таксама ў межах сустрэчы гаварылі пра пераклады на беларускую мову. Андрэй Хадановіч прадставіў свой варыянт перакладу знакамітай песні польскага барда Яцка Качмарскага «Муры», якая ў свой час была неафіцыйным гімнам «Салідарнасці». Марына Шода, між іншым, распавяла пра выдатнага перакладчыка Васіля Сёмуху, з якім яе лёс зніташаў незвычайным чынам, і якога назвала сваім настаўнікам у перакладах. Прыемным момантам сустрэчы стала і выкананне вядомага „Вожыка-патрыёта", калі Хадановічу падпявалі і дзеці, і дарослыя ў «склепе».

— Па шматлікіх просьбах я проста мусіў гэта зрабіць — вывесці песеньку, якая прыдумлялася для дзяцей, выконвалася выключна як дзіцячая... і раптам займела дарослую аўдыторыю. (Што там пісаў Акудовіч пра вечных дзяцей Беларусі? :)) Апошнім і вырашальным каментам-замовою быў гэты: «а дальше, Веничка, что ты пел дальше?» А далей былі звярысуайчыннікі. (Хто скажа, што трактар «Беларусь» — не звер?!) Выконваецца на крыху скажоную мелодыю «Жоўтай субмарыны». (Асобы з добрым слыхам могуць мелодыю не скажаць.) Суаўтары опуса Джон Ленан, Пол Макартні і Серж Мінскевіч: *Не працуюць санвузлы, не нясуць дзяцей буслы, не шанцуе па жыцці — у паход пара ісці! Бел-чырвона-белы бусел-патрыёт, бусел-патрыёт, бусел-патрыёт. Разам з намі крочыць у паход, крочыць у паход, крочыць у паход. Нават вожык на грыбы не раскатвае губы. Ён выходзіць на прасцяг, несучы на голках сцяг. Бел-чырвона-белы вожык-патрыёт, вожык-патрыёт, вожык-патрыёт, разам з намі крочыць у паход, крочыць у паход, крочыць у паход...* — падпявалі і самыя маладыя слухачы, і аматары беларускай паэзіі і песні ўзросту іх дзядоў.

Пасля сустрэчы ахвотныя маглі набыць кнігі з аўтографам аўтара. Найбольшай папулярнасцю карысталіся, вядома, «Нататкі таткі».

— А пасля беларускай сустрэчы дзеці дэкламавалі ўжо цэлыя вершы з вельмі цікавага і цудоўна афармленага зборніка «Нататкі таткі», — адзначыла ў сецыве Аліна Ваўранюк.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ


Марыя Кулакоўская з дому Краскевіч

# У Томск ці ў Омск

## — дылема крушынянскіх бежанцаў

**— Бацькі нічога не гаварылі, — сцвярджае народжаная ў Крушынянах Марыя Кулакоўская з дому Краскевіч, — нам заўсёды расказвала старэйшая сястра Людміла. Усё яна добра помніла і ведала.**

Людміла Краскевіч нарадзілася ў 1910 годзе. Едучы туды была яшчэ дзіцём, але назад вярталася ўжо падлеткам.

На загружаным толькі неабходнымі рэчамі возе сядзеў бацька Іван, яго першая жонка (імя якой невядомае маёй субяседніцы), дочкі Людміла, Нона і сын Віця.

З Крушынян павыязджалі амаль усе, нават каталікі. Немца баяліся. З цэлай вуліцы, на якой жылі Краскевічы, чамусьці засталіся толькі іх суседзі з-за плота Макалі — вясковая мянушка якіх Мікалуе. Блізкія і далёкія сваякі ў дарозе трымаліся разам. Ніхто не сказаў куды дакладна ім ехаць. Іван чуў, што ў Томску жывуць нейкія сваякі, таму свой атрад накіраваў менавіта туды. Людміла ўспамінала незвычайную дабрыню і ласку сустраканых у дарозе, звычайных расіян. Дзяліліся з імі хлебам, малаком, запрашалі, прапанавалі застацца. Усё роўна Іван прынятага рашэння мяняць не збіраўся. Нягледзячы на прыхільнасць і дапамогу выпадковых людзей, падарожжа аказалася надта цяжкім жыццёвым выпрабаваннем.

З абставінамі лёсу не справілася, між іншым, першая жонка Івана. Невядома дзе памерла і дзе яе пахавалі. Да Томска ніколі не даехала. Ніхто з Краскевічаў туды не даехаў. Стомленыя крушынянскія бежанцы закончылі сваё падарожжа на станцыі Марыянаўка, 50 кіламетраў за Омскам, роўна ў палове дарогі ў Томск. Прытуліліся ў гаспадароў з непадалёкай Барысаўкі.

У параўнанні з роднымі Крушынянамі малая Барысаўка здалася ім метраполіяй. Тры вуліцы, царква, валасць (нешта накшталт нашай гміннай управы), млын, крамы. Працавіты Іван неўзабаве паставіў там уласную хату, а ўдакладняючы, узорам мясцовых зляпіў гліняную мазанку.

— Жылі там хахлы, рускія і кацапы, — кажа спадарыня Марыя, — так называлі, нацыянальнасць такая. Хахлы — гэта ўкраінцы, а кацапы — не ведаю якія, папросту так іх называлі. Так прынамсі расказвала Людміла. Нашых, здаецца, называлі палякамі.

Меркаванне спадарыні Марыі наконт нацыянальнай тоеснасці крушынянцаў заснаванае на адной з гісторый, расказаных Людмілай.

Кругом Барысаўкі жыло шмат кіргізаў. Прывозілі яны збожжа да млына, у якім Іван працаваў вагаўшчыком. За добрую, хуткую абслугу дадаткова плацілі яму баранінай. Іван звычайна тады пытаў:

— Хто калоў? Бог ці вы?

Аднойчы завітаў да кіргізаў у госці. Надта добра яго прынялі. Жарабяціны ў масле натушылі, бурсакоў (эквівалент нашых пончыкаў) насмажылі. Так атрымалася, што Іван быў сведкам працэсу рыхтавання бурсакоў. Кіргізка, якая іх мясіла, адышла на хвіліну, каб памяняць пялюшку дзіцяці і, не памыўшы рук, зноў вярнулася да папярэдняга занятку. Іван так і не змог іх пакаштаваць.

— А чаму ты не ясі? — пытаюцца ў Івана.

Той, не хацеўшы пакрыўдзіць надта гасціннай гаспадыні, сказаў, што якраз посціцца.

— А чаму гэта ты посцішся, калі ніякага посту няма?

— Таму што я — паляк, — выкруціўся Іван.

Працы ў Барысаўцы хапала ўсім і больш, і менш кваліфікаваным. Сястра Івана памагала на кухні, а вучаны сваяк Андрэй Кірмуць займаўся паперамі ў валасной управе. Іншы сваяк таксама ў валасці пісарам быў.

Людміла не магла надзівавацца багаццю барысаўчан. Для яе, сялянскай дачкі, абазначала яно перш за ўсё дастатак хлеба. У Барысаўцы было яго аж надта. Гаспадары прадавалі збожжа не мяшкамі, а чыгуначнымі вагонамі. Ляжала яно ў незвычайных для крушынянцаў свірнах без акон і дзвярэй, толькі з адтулінай у даху. Уласнай зямлі ніхто шмат не трымаў. Паўсюль былі стэпы.Туды ўсе ехалі, там аралі, сеялі і збіралі. Участкі зямлі абраблялі валамі, а жалі тады яшчэ невядомымі ў Крушынянах самавязкамі. Пасля трох гадоў працы на такім участку давалі яму адпачыць і пераходзілі на іншы. У стэп гаспадары адпраўляліся з парабкамі. Пакуль не пааралі, не пасеялі, дахаты не вярталіся. Збожжа даспявала ў тэмпературы вышэй за 40 градусаў цяпла. Звычайна адзін ці два дажджы на працягу ўсяго лета гарантавалі вялікі ўраджай, але бывала, што зусім ён не паяўляўся. Так распаўсюджанай у нас бульбы садзілі там няшмат. Звычайна капалі па 6-10 кошыкаў. Адзін барысаўчанін, накапаўшы 40 кошыкаў, сказаў:

— Госпадзі, а што я з ёю зраблю?

А як жа інакш, калі да мяса бралі яны там столькі бульбы, што крушынянцы мяса да бульбы. Затое кавуноў і сланечніку вырошчвалі там шмат. Менавіта сланечнік быў там асноўным лякарствам на зімовую нуду мясцовага прыгожага полу. Звычай быў там такі, што ў строгія зімовыя дні садзіліся яны на печ і лузалі семечкі сланечніку. Нашы не маглі надзівавацца такому беспрацоўю. Ні прасці, ні ткаць, ні мыць, ні хату пабяліць — нічога ім не хацелася. А яшчэ крушынянскім бабам раілі бялільшчыкаў наймаць.

— Не ведаю чаму яны нічога не рабілі, ці гэта таму што зіма была цяжкая, — шукае тлумачэння спадарыня Марыя.

Зімы былі сапраўды марозныя. Звычайна 40 градусаў ніжэй нуля, снегу навявала роўна з дахамі. Ні выйсці, ні выехаць.

Сем такіх зім пратрымалі крушынянцы, на восьмую вярталіся ўжо дахаты. Але ж уцякалі не столькі ад зімы, як ад рэвалюцыі. Прывезлі такі вось анекдот:

— Оксенька, падай мне мой новы сарафан, — паклікала служанку руская барыня, — надзену яго, каб не змарнаваўся, калі мяне застрэляць.

Адзеўшыся ў сарафан, палезла пад лаўку смерці чакаць. Смерць не прыйшла, а сарафан узяў і парваўся.

Школьны калега Людмілы, хахолжартаўнік маўляў тады:

„За Мікалашкам былі штаны, пінжак і рубашка, як стаў Калчак, былі штаны і пінжак, а як сталі камуністы, людзі пачалі ў мяшкі *лізты*, а за камуністамі так кепска стала, што і мяшкоў не хапала”.

На бацькаўшчыну Іван вяртаўся разам са сваёй новай жонкай, як і ён крушынянкай Фядорай — мамай спадарыні Марыі. Павянчаліся ў Барысаўцы, там нарадзілася ім першае супольнае дзіця — Данат званы Дзіянісіем. Дзіця адзначалася незвычайнай, сібірскай сілай.

— У годзік ці паўтара, як толькі стаў на ножкі, — успамінае словы Людмілы спадарыня Марыя, — падышоў да воза, узяў за кола і так калаціў, аж воз варушыўся. На жаль, моцна захварэў на халеру. А яшчэ цялушка ўзяла яго на рогі. Донісь надта спалохаўся. Баяўся нават чыгункі, якой выязджаў з Расеі, таму што гудзела яна як жахлівая цялушка. Донісь не вытрымаў і памёр у дарозе. У сваёй новай, адзінай бацькаўшчыне застаўся назаўсёды. Пахавалі яго ў Омску. Пахавалі і паехалі далей, у спаленую немцамі вёску.

На родным панадворку ў Крушынянах застаўся толькі цагляны свіран. Там жылі вясной. Зімой прытуляліся ў не пабывалых у бежанстве і не пацярпелых ад пажару Мікалуеў. Хутка сталі на ногі. Дапамаглі прывезеныя з Расеі залатыя пярсцёнкі і завушніцы, але сваіх завушніц Фядора ніколі не прадала. Аддала іх потым дачцэ Раісе, якой дактары прыпісалі насіць золата. Усё жыццё з імі прайшла. Толькі перад самай смерцю адну згубіла. Пахавалі яе з адной, барысаўскай завушніцай. Засталася яшчэ песня.

— Так сабе думаю, што і яна згэтуль прыехала, — мяркуе спадарыня Марыя.

— Яна падобная на тамашняе жыццё. Мабыць, распавядае пра маладзенькую прыгажуню, якая памерла ад халеры. Маўлялі, была так прыгожай, што яе цела ўначы выкралі са шпіталя, каб выратаваць ад прымусовага спалення. Уначы яе і пахавалі.

*Когда я на почте служил ямщиком,*
*Был молод, имел я силенку,*
*И крепко же, братцы, в селенье одном*
*Любил я в ту пору девчонку.*

*Сначала не чуял я в девке беду,*
*Потом задурил не на шутку:*
*Куда ни поеду, куда ни пойду,*
*Все к милой сверну на минутку.*

*И любо оно, да покоя-то нет,*
*А сердце болит все сильнее.*
*Однажды дает мне начальник пакет:*
*«Свези, мол, на почту живее!»*

*Я принял пакет — и скорей на коня,*
*И по полю вихрем помчался,*
*А сердце щемит, да щемит у меня,*
*Как будто с ней век не видался.*

*И что за причина, понять не могу,*
*И ветер так воет тоскливо...*
*И вдруг — словно замер мой конь на бегу,*
*И в сторону смотрит пугливо.*

*Забилося сердце сильней у меня,*
*И глянул вперед я в тревоге,*
*Потом соскочил с удалого коня, —*
*И вижу я труп на дороге.*

*А снег уж совсем ту находку занес,*
*Метель так и пляшет над трупом.*
*Разрыл я сугроб-то и к месту прирос, —*
*Мороз заходил под тулупом.*

*Под снегом-то, братцы, лежала она...*
*Закрылися карие очи.*
*Налейте, налейте скорее вина,*
*Рассказывать больше нет мочи!*

Іаанна ЧАБАН

## Нараўчанская гміна — зялёная старонка

Нараўчанская гміна займае вялікую плошчу ў далінах рэк Нараўкі і Нарвы. У ёй можна захапляцца прыгожымі краявідамі. Тут — як кажуць — вада чыстая і трава зялёная. Сустрэнем тут яшчэ месцы, дзе дзікая і незаняволеная прырода; такіх месц усё менш у Еўропе. Зараз тут шмат агратурыстычных гаспадарак, цяпер яны амаль у кожнай вёсцы.

Каб прыцягнуць сюды турыстаў, у Старым Двары на беразе Семяноўскага вадасховішча на сямі гектарах пабудавалі асяродак для летняга адпачынку. Тут ёсць прыгожы амфітэатр, спартыўныя пляцоўкі, пляцоўкі для дзіцячых гульняў, ёсць пляж і ёсць дзе раскласці кастры пад прыстрэшкамі. Побач амфітэатра адвялі шмат месца для аўтастаянак. Сёлетняй вясной на абочынах асфальтавай дарогі да асяродка пабудавалі яшчэ дадатковыя месцы для аўтамабіляў.

У летнія выхадныя дні ў амфітэатры Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы ладзіць канцэрты (сёлета ўжо адзін канцэрт адбыўся і чарговы запланавалі на суботу, 4 ліпеня) ды іншыя культурназабаўляльныя мерапрыемствы. Нараўчанская гміна прыняла назву „Зялёнай старонкі добрых ветроў”. Як вядома, вецер дзьме ў кожную пару года і таді можна плаваць па возеры. Тут летам арганізоўваюць рэйсы суднамі, катаюцца на лодках і байдарках.

Семяноўскае возера гэта рай для вудзільшчыкаў. Можна пачуць легенды пра злоўленыя ў вадасховішчы велізарныя шчупакі і сомы. На беразе возера пабудавалі назіральныя вышкі з шырокай панарамай, намецілі арыгінальную сцяжынку для любіцеляў птушак.

Ходзяць чуткі, што ў Старым Двары пабудуюць яшчэ гатэль (будзе ў ім шмат начлежных месц) ды гастранамічныя аб'екты.

Варта дадаць, што з думкай пра турыстаў у Нараўцы на беразе ракі пабудавалі прыстань для байдарак і домікі для начлежнікаў.

## Справы для солтысаў

Вяскоўцы ідуць да солтыса ў розных справах і з усялякімі патрабаваннямі. У Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны солтыс заадно і радны. Прыходзяць да яго, каб адрамантавалі ўхабістую дарогу і каб гарэлі ўсе лямпачкі вулічнага электраасвятлення ды калі слабы ціск вады ў кране або ўвогуле яе няма. Звяртаюцца з пытаннямі, калі ездзяць аўтобусы ПКС цераз Ляўкова, або калі будзе бліжэйшы беларускі народны фэст у Нараўчанскай гміне.

Жыхары новаляўкоўскага прысёлка звярнуліся з патрабаваннем, каб у іх на вуліцы засвяціліся электралямпачкі. На іншым прысёлку-каленіі хочуць, каб войт як найхутчэй накіраваў на дарогу да іх грэйдар — тут такая ўхабістая гравійка.

18 мая г.г. радны Новага Ляўкова падчас сесіі Гміннай рады папрасіў войта накіраваць пісьмо ў Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог (ППВД) у Беластоку, каб адрамантавалі асфальтавую маставую на ваяводскай дарозе № 687 на адрэзку з Новага Ляўкова ў Плянту. Мелі закончыць рамонт гэтага кавалка ўлетку мінулага года, але не закончылі. Войт напісаў пісьмо ў ППВД і адтуль 10 чэрвеня г.г. прыйшоў станоўчы адказ: рамонт будзе завершаны да канца ліпеня г.г.

Падобнымі справамі займаюцца солтысы іншых вёсак. Жыхары Ахрымоў і Лешукоў патрабуюць пабудовы тратуараў у гэтых сёлах. Жыхары Лешукоў задумалі будаваць у сябе яшчэ і святліцу.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Юбілейныя 29-тыя Сустрэчы «Зоркі»



У час 29-тых Сустрэч «Зоркі», якія праходзілі з 15 па 20 чэрвеня ў пансіянаце «Бора-Здруй», дзейнічалі тры рэдакцыі: «Сустрачанскія навіны» (рэдактар Наталля Васько), «Шпакоўня» (рэдактар Максім Фіёнік), «Вокны Беларусі» (рэдактар Вераніка Кардзюкевіч). З моладдзю працавалі журналісты «Нівы», Радыё Рацыя і Радыё Беласток. Цягам тыдня наведалі нас старыя сябры і выхаванцы Сустрэч. У гэты раз мы засяродзіліся на інтэрв'ю. Пад вокам прафесіяналаў моладзь рыхтавала пытанні і праводзіла сустрэчы з вядомымі беларусамі: Лявонам Тарасэвічам, Дарафеем і Альжбетай Фіёнікамі, Міхасём Андрасюком, Алінай і Міколам Ваўранюкамі, Вольгай Ахрук, Мацеем Халадоўскім, Валянцінай Бабулевіч, Тамашам Саевічам. Варта адзначыць, што заняткі па інтэрв'ю і фатаграфіі павялі Міхась Сцепанюк і Павел Гжэсь, якія пабывалі на I Сустрэчах «Зоркі» ў 1995 годзе. Дапаўненнем майстар-класаў была паездка ў Кудак і малебен за ўдзельнікаў і сяброў Сустрэч «Зоркі». Апошні, дваццаць дзявяты выпуск, быў прымеркаваны да юбілею, — існуем ужо дваццаць гадоў. Калі пра юбілей — адсвяткавалі мы яго за працай, якая прынесла багаты плён і натхненне.

29-тыя Сустрэчы «Зоркі» фінансавала Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі.

(гак)

# Кудак

18 чэрвеня ўдзельнікі Сустрэч „Зоркі" паехалі трактарам на Кудак да айца Гаўрыіла. Па дарозе мы спявалі беларусія песні. Пра пустэльню Кудак расказаў нам пан Валодзя Весялоўскі, які ў школьныя гады пісаў у „Зорку". Захапіла нас прыгожасць гэтага месца. Айцец Гаўрыіл адслужыў малебен за ўдзельнікаў і сяброў Сустрэч „Зоркі". Смачнымі былі пернікі і гарбатка, якой частавалі нас у Кудаку. З пустэльні мы вярталіся доўгай кладкай, сярод лугавых кветак. Гэтая экскурсія застанецца ў нашай памяці надоўга...



## «Экскурсія думак»

Я ехала трактарам. Думала. Думала колькі звяроў у лесе і не ведала. Думала колькі дрэў у лесе і не ведала. Думала колькі хвілін буду сядзець і думаць, і не ведала. Думала пра тое, ці я калісьці яшчэ сюды прыеду і ведала. Буду прыязджаць сюды кожны год, у чэрвені.

Вераніка Кардзюкевіч,
рэдактар газеты «Вокны Беларусі»



## Сустрачанскія легенды

— Я быў крыху старэйшы за вас, — пачаў Дарафей Фіёнік са Студзіводаў. — Разам з сябрамі выправіліся мы на Сустрэчы «Зоркі» на «трабанце». Гэта такі пластмасавы самаход. Усе селі ў «трабант», набралі яшчэ экспанатаў з музея і паехалі... За Бельскам «трабант» папсаваўся. Калі мы стаялі і думалі што рабіць, надʼехаў іншы аўтамабіль. Чалавек заблудзіўся, пытаў як даехаць у Гайнаўку. Мы яму падказалі, што найбліжэй будзе... праз Нарву! Ну, «атуманілі» прыезджага чалавека. Гэты мужчына прапанаваў, што можа ўзяць нашага «трабанта» на буксір. Ён падцягнуў нас на Сустрэчы і гэта трывала больш за тры гадзіны. Чаму тады не завярнуліся дамоў?

Другая гісторыя здарылася паміж Ялоўкай і Мастаўлянамі. Мы паехалі туды на экскурсію. Пасля зайшлі на плябанію да бацюшкі Яўгена Канаховіча ў Ялоўцы. Я загаварыўся. Пасля, калі выйшаў на двор — бачу, няма аўтобуса. Я пайшоў у бок Мстаўлян. Ішоў, ішоў, ішоў — хіба з восем кіламетраў, у сярдзіты мароз. Аж той аўтобус вяртаўся з Мастаўлян у Ялоўку, і нават не ведалі што мяне згубілі!

Патрыцыя Чэмярыс — «Шпакоўня».

# Калі Сустрэчы дараслі, мы засяродзіліся на пісанні

*Гутарка з Ганнай Кандрацюк-Свярубскай з нагоды юбілею Сустрэч „Зоркі”*



**Наталля Васько:** — *Ці Вы , як былі ў нашым узросце, думалі, што будзеце рабіць Сустрэчы „Зоркі”?*

**Ганна Кандрацюк-Свярубская:** — Не думала, але хацела рабіць нешта файнае ў жыцці. У вашым узросце, калі набліжаліся канікулы, я ўжо рыхтавалася дапамагаць бацькам. Я нарадзілася і вырастала ў вёсцы. Час канікул гэта быў час інтэнсіўнай працы. Я вельмі любіла сушыць сена, пасвіць авечак, дапамагаць бацькам у полі, пры жніве. Апрача гэтага было многа гульняў з сябрамі. Я, напрыклад, для сваіх малодшых сясцёр і сяброў арганізавала фестывалі «ў Аполі» і «ў Зялёнай Гуры». Канцэрты мы ладзілі на кладцы, што ляжала на рачулцы Куляшэўка. Гэта была наша сцэна, якую мы аздаблялі галінкамі ліпы. А ўзнагародай за песні былі каменьчыкі, якія мы збіралі на полі.

**Міхась Сахарчук:** — *Ці Вы спадзяваліся, што праз дваццаць гадоў будуць Сустрэчы „Зоркі”?*

**ГК-С:** — Не, не спадзявалася. Сустрэчы „Зоркі” адбываліся з перапынкамі і з рознай дынамікай. Першыя 20 выпускаў адбыліся цягам пяці гадоў. Пасля быў перапынак, бо „Ніва” мела цяжкасці. Калі нашая сітуацыя паправілася, мы рэактывавалі Сустрэчы „Зоркі”. Нашыя выхаванцы сталі ўжо дарослымі і яны прыязджалі працаваць у якасці апекуноў і дакладчыкаў. Я думаю, што нельга рабіць такіх жалезных праектаў на цэлае жыццё. Калі прыходзіць новая змена, тады шмат мяняецца. Людзі ўносяць штосьці ад сябе, робяць па-свойму. Кожная ідэя патрабуе мадыфікацыі. Таксама Сустрэчы „Зоркі” змяняліся. Спачатку мы мелі разнавідныя заняткі: мастацкія, тэатральныя, этнаграфічныя, экалагічныя, сустракаліся з кашубскай моладдзю, беларусамі з Вільні. Каляровыя крыжы, якія сустрэнеце на Падляшшы, гэта наш брэнд. Але вось, калі Сустрэчы „дараслі”, мы засяродзіліся на пісанні.

**Уля Марчук:** — *А чаму Вы выбралі на Сустрэчы пансіянат Бора-Здруй?*

**Г К-С:** — Сустрэчы адбываліся ў розных месцах, не толькі на Беласточчыне. Мы два разы пабывалі на Балтыйскім моры. Доўгі час Сустрэчы адбываліся ў Нарве. А чаму тут сустракаемся ўжо шосты раз? Я лічу, што тут ёсць цішыня і дарога, па якой можам шпацыраваць і адпачываць. Ёсць пляц гульняў, дзе можна скінуць стрэс. Ёсць ветлівыя людзі і смачная кухня.

**Наталля Васько:** — *Нам таксама падабаецца.*

**Міхась Сахарчук:** — *Што Вы думаеце пра моладзь з якой працуеце?*

**Г. К-С:** — Моладзь мяняецца. На першых Сустрэчах моладзь была іншай. Тадышнія дзеці не мелі доступу да смартфонаў і больш чыталі. Ну, але сустрачанская грамада яна асаблівая. Да нас прыязджаюць дзяўчаты і хлопцы, якія чытаюць кніжкі, які з'яўляюцца элітай у сваёй школе. Таму з вамі добра працуецца.

**Уля Марчук:** — *Ці бачыце свет без Сустрэч „Зоркі”?*

**Г. К-С:** — Сустрэчы гэта падарунак для дзяцей, якія пішуць у „Зорку”, якія развіваюцца. Штодзень я займаюся пісаннем. Гэта такая зайздросная галіна, якая не адпускае чалавека да нічога іншага. Калі арганізую майстар-класы, тады не дам рады пісаць, бо ўся ўвага накіраваная на праграму і арганізацыйныя справы. Ніколі не думала ці ўяўляю свет без Сустрэч. Калі бачу з вашага боку ангажаванасць, калі дасылаеце свае допісы і вершы, калі хочаце прыехаць на Сустрэчы, тады мне хочацца працаваць.Тут вельмі важная ўзаемнасць.

*Гутарку правялі члены рэдакцыі газеткі «Сустрачанскія навіны» пад кірункам Наталлі Васько*

## СУСТРАЧАНСКАЯ КРЫЖАВАНКА

**1.** Чалавек, які жыве каля тваёй хаты.
**2.** Размова многіх асоб на нейкую тэму.
**3.** Асоба, якая вучыцца ва ўніверсітэце.
**4.** Чалавек, які любіць свой народ.
**5.** Дае нам смачныя яйкі.
**6.** З гэтага месца вылятаюць самалёты.
**7.** Бываюць сінія, карыя...
**8.** Ходзіць са стрэльбай па лесе.
**9.** «Вопратка» рыцара.
**10.** Тут высылаем лісты.
**11.** Тут працуюць акцёры.
**12.** Домік, які возьмем на летнік.
**13.** Тыднёвік беларусаў у Польшчы.

(***Лена Сульжык, Оля Асташэўская*** - *«Вокны Беларусі»*).




Адказ на крыжванку № 22: Пах, пуп, сказ, каштан, штат, но, Віка, одум, малако, соя. Трамп, порт, імя, Сашка, кшталт, тата, ар, затока, дом, но, паром. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Наталля Маркевіч** з Бельска-Падляшскага, **Караліна Трусевіч** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Зузанна Мішчук, Оля Куптэль** з Арэшкава, **Уля Марчук** з Нараўкі, **Сара Скаўронская** з Беластока, **Тымэк Петручук, Януш Банькоўскі, Міхал Тапалянскі** з Нарвы. Віншуем!

## Вершы Віктара Шведа



### Хітрэц

Сыночак шэпча таце да вуха,
— Татулька мяне паслухай,
Скажу я табе за грошы,
Што маме сказаў лістаноша.

Атрымаўшы дзесяць злотых
Сын адказвае з ахвотай
Тату, надзвычай шчаслівы:
— Прынёс, пані, свежую „Ніву”.

### Пошукі чыстага паветра

На ўроку ў квяцістым маі
Вучань акно адчыняе
І стаіць у захапленні
У паветра свежага струменях.

Настаўнік раптам пытае:
— Чаго ты там дзетка шукаеш?
— Шукаю ў подыху ветру
Я чыстага паветра.

# «БРАНІСЛАЎ ТАРАШКЕВІЧ» — кастынг

**На карце Мінска — даведніку вадзіцеля з 2004 г. — вуліцы Браніслава Тарашкевіча яшчэ не было. Цяпер выгугленую на карце ў інтэрнэце можна знайсці яе ў адным з кварталаў на перыферыі цэнтральных раёнаў беларускай сталіцы. Адносна недалёка ад Нацыянальнай бібліятэкі, якую сюды перасялілі ў 2006 годзе ў новы гіганцкі будынак. На маленькай вуліцы, як на працягласць беларускай сталіцы, знаходзіцца ўсяго дваццаць з лішнім будынкаў. Наўрад ці хто-небудзь ведае, дзе яна знаходзіцца. Сярэдні малады мінчанін не ўмее сказаць зашмат і пра патрона, а можа нават і нічога. Незалежная культурная пляцоўка «Арт-Сядзіба» вырашыла гэта змяніць. Пра патрона вуліцы мае ўзнікнуць спектакль. Прафесійныя акцёры і аматары вылучаліся для яго шляхам кастынгу.**






Такія значкі можна набыць у краме «Арт-Сядзібы»

«Браніслаў Тарашкевіч... вельмі слізкая асоба. Так-так-так... граматыка... гм... Хто іх там разбярэ з іхнімі мовамі ды граматыкамі... напырдумвалі моў гэтых... чорт язык зломіць!» — ад гэтых думак выказаных да сябе ўслых адным савецкім следчым пачынаецца п'еса «Браніслаў Тарашкевіч», за якой рэалізацыю ўзяўся народжаны ў Віцебску малады мінскі рэжысёр Эльдар Бякіраў. Не толькі ён заняўся рэжысурай, але напісаў адмысловую п'есу. Ён звязаны з прэстыжным у тэатральным асяроддзі Мінска народным студэнцкім драматычным тэатрам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта «На балконе», але і з прафесійнымі мінскімі тэатрамі, такімі як імя Янкі Купалы ці Максіма Горкага. Аляксей Сапрыкін, з англійскай арт-менеджар, а па-беларуску спецыяліст па мерапрыемствах «Арт-Сядзібы», адзін з распрацоўшчыкаў пастаноўкі п'есы:

— Эльдар быў рэжысёрам двух спектакляў тэатра «На балконе». Мы хацелі, і гэты спектакль паставіць яшчэ два гады таму на сцэне БДУ. Нават пачалі рэпеціраваць, але кіраўніцтва ўніверсітэта забараніла нам, калі даведалася, што мае быць пра Браніслава Тарашкевіча. Таму мы вырашылі рэалізаваць яго ў «Арт-Сядзібе». Тэкст быў створаны на аснове гістарычнай інфармацыі, але гэта больш свет сноў, у больш постмадэрнісцкім стылі. П'еса закранае розныя этапы жыцця Тарашкевіча і час, калі ён ствараў беларускую граматыку, і час беларусізацыі ў нашай краіне, але і сцэны з яго асабістага жыцця. Драма распісана на адзінаццаць герояў. У ходзе рэпетыцый мы і далей будзем удасканальваць тэкст — «пад акцёраў».

## Тарашкевіч кепска трактаваны

— Гэта дзіўна, што Браніслаў Тарашкевіч, авалоданы тымі сацыялістычнымі ідэямі, стваральнік Беларускай сялянска-работніцкай грамады, так дрэнна трактуецца ў Беларусі, замоўчваецца, — разважае Аляксей. — На мой пагляд, гэта вынік таго, што ён звязаны з беларускай мовай, бачыцца бацькам беларускага правапісу, граматыкі. Пры Сталіне яго расстралялі. Быццам бы яго рэабілітавалі, але зноў тут у нас у цяперашні час мае голас антыбеларускі, лукашэнкаўска-расійскі рэжым. Вуліцы Тарашкевіча ёсць толькі ў Радашковічах і ад нейкага часу гэтая маленькая ў Мінску. У школах кажуць толькі, што была такая персона, якая стварыла беларускую арфаграфію і ўсё. Аб дэталях яе прынцыпаў нават у беларускім інтэрнэце цяжка знайсці што-небудзь. Займаюцца ім толькі зрэдку спецыялісты. Напісаў кнігу пра яго Арсень Ліс [1934 г. нар., літаратуразнаўца, філолаг, пісьменнік, этнограф — М. Х.], але ў 1966 годзе. Ёсць дакументальны фільм — «Зямля Тарашкевіча» зняты ў 1991 годзе. Аднак, ён недасягальны, знаходзіцца дзесьці ў архівах «Белтэлерадыёкампаніі». І будзе там ляжаць, бо нікому ён непатрэбны, акрамя нас. Не існуе ні адной яго копіі. Самае горшае, што рэжысёр гэтага фільма ўжо памёр, а аўтар сцэнарыя, якраз Арсень Ліс, таксама яе не мае.

У п'есе «Браніслаў Тарашкевіч» рэзануюць матывы, якія ў сваёй драме «Арышт» крануў Сакрат Яновіч, пішучы яе доўгі час у 1978-1999 гадах. П'еса, аднак, падрыхтоўваная ў «Арт Сядзібе» не мае нічога супольнага з ёй. Тым не менш, яна таксама адносіцца да ліку матываў, няраз тых самых з жыцця і дзейнасці Браніслава Тарашкевіча, народжанага ў 1892 годзе ў Мацюлішках, расстралянага падчас сталінскіх чыстак у 1938 годзе ў Мінску, палітыка, таксама дэпутата Сейма Рэчы Паспалітай, старшыні Беларускага пасольскага клуба, грамадскага дзеяча, лінгвіста, перакладчыка, і, нарэшце, — што на самой справе прагучаць на спектаклі ў Мінску — распрацоўшчыка сістэмы арфаграфіі беларускай мовы («тарашкевіцы») і аўтара першага падручніка беларускай граматыкі для сярэдніх школ.

Аляксей:

— Самае сумнае, што Браніславу Тарашкевічу не надавалася ў Беларусі дастатковай увагі ў школе. Дзякуй Богу, я вучыўся ў беларускай школе. Мяне вучылі і беларускай лацінцы, і пра Тарашкевіча, але большасць гэтага не ведае або гэтыя веды прайшлі міма іх. Перш за ўсё таму гэты спектакль хочам давесці да моладзі. Спектакль будзе агульна невялікі, там будзе дзве, мабыць тры большыя сцэны. Алегарычнымі, метафарычнымі сродкамі паказаны ў ім будзе ўвесь абсурд сітуацыі, якая была тады і існуе цяпер. Падчас працы над тэкстам у нас былі некаторыя пытанні з нагоды мовы, крыху гісторыі ў тэкст дадаў Арсень Ліс. Гэта не будзе строга гістарычная аповесць пра жыццё Тарашкевіча, але ключавыя моманты яго жыцця будуць згаданы. Гэта будзе спектакль пра нас, беларусаў, і пра беларускую мову.

## Спектакль аб беларускай мове

Кастынг праводзіў ў некалькі разоў. Аб'явы з'яўляліся ў інтэрнэце: «Да ўдзелу запрашаюцца прафесійныя і непрафесійныя акторы і акторкі, а таксама людзі, якія хочуць паспрабаваць сябе на вялікай сцэне. Адзіная ўмова кастынгу — гэта добрае валоданне беларускай мовай і зацікаўленасць у пастаноўцы спектаклю. Спектакль «Браніслаў Тарашкевіч» прысвечаны выдатнаму навукоўцу і мовазнаўцу. Асноўнай мэтай спектаклю з'яўляецца прыцягненне ўвагі да Браніслава Тарашкевіча — стваральніка беларускай граматыкі. Усё, што мы ведаем пра ягоную асобу, гэта тое, што Тарашкевіч стварыў беларускую граматыку, але пра ягоны жыццёвы лёс нічога амаль невядома, таму мы лічым, што варта выправіць гэтую сітуацыю».

Эльдар Бякіраў:

— Шукаю акцёраў, аднадумцаў, калі справа ў ідэях, якія змяшчаюцца ў спектаклі. Калі я пісаў п'есу, ува мне адбываўся наступны этап майго працэсу самаідэнтыфікацыі, даведвання пра сябе як беларусе. Яшчэ ў школе пытаўся сябе, чаму ў нас, у Беларусі, не гавораць па-беларуску. Мая маці і бабуля з'яўляюцца беларускамі, бацька азербайджанец. Калі я прыходзіў дадому са школы і прабаваў загаварыць па-беларуску, маці і бабуля тут жа кідалі на рускай: «Ну что ты, прекрати!». Я кінуў і толькі ў вышэйшай школе гэтае пытанне вярнулася.

Адзначае:

— Спектакль, калі гаворка пра яго сэнс, можа нават менш будзе пра самога Браніслава Тарашкевіча, але больш пра беларускую мову. Цяпер, нават у параўнанні з нядаўнім часам, пяці-сямігадовай даўнасці, многія беларусы спрабуюць ідэнтыфікаваць сябе, вызначаючы свае адносіны да беларускай мовы. Штораз часцей можна наглядаць пераход на беларускую мову ў штодзённых размовах.

Кастынг да спектакля «Браніслаў Тарашкевіч»
За сталом: Эльдар Бякіраў (злева) і Аляксей Сапрыкін

Я не хачу, вядома, гэтым спектаклем выклікаць: «Мы — беларусы, так што давайце возьмемся за рукі і будзем усе гаварыць па-беларуску». Так нельга. У многіх выклікала б гэта нежаданне, нават варожасць. Я хачу пагаварыць аб гэтым з гледачамі, і нават не з іх розумам, а сэрцам.

Мы трапілі ў памяшканнях «Арт-Сядзібы» на апошні з прадбачаных кастынгаў. Прыйшло амаль дваццаць чалавек. Былі як прафесійныя акцёры, так і аматары. Большасць прыйшла з цікаўнасці. Наймаладзейшая — гімназістка Ірына, 16 гадоў. Найстарэйшы — Ігар, цяпер беспрацоўны, 28 гадоў. Эльдар і Аляксей з-за стала пытаюцца па-беларуску сядзеўшую на крэсле насупраць крыху спалоханую Ірыну:

— Чаму квіток у Полацк таннейшы, чым у Парыж?

Ірына:

— Таму што гэта бліжэй? Але я і так больш ахвотна паехала б у Полацк.

— Чаму?

— Таму, што гэта наша першая сталіца.

Ігар, расказваючы пра сябе па-беларуску, у нейкі момант не вытрымлівае:

— А ці я магу, калі што, перайсці на рускую, таму што па-беларуску мне занадта складана.

Пасля кастынгу Эльдар нам адкрыта прызнаецца:

— Я сам, у першую чаргу, гавару па-руску, таму на гэтай мове я навучыўся чытаць і пісаць. Беларускую мову стаў вучыць у школе ў шэсць гадоў. Па-беларуску я пішу, усё ж, больш пісьменна чым па-руску. Я трохі гавару па-іспанску, па-нямецку, па-французску. Я заўважыў, што шмат людзей на кастынгах, умеючых размаўляць па-беларуску, маюць жаданне перайсці на рускую мову. Але відаць, што яны хочуць ад гэтага вызваліцца, і таму яны прыйшлі сюды. І гэтыя людзі жадаюць працаваць над спектаклем. Падчас працы над ім у той жа час мы будзем вучыцца гісторыі і мовы. Нават тыя людзі, якія былі на кастынгу, але не выступяць у нашым прадстаўленні, гэты факт сябе зафіксавалі і праз некалькі гадоў яны будуць смялей і лепш валодаць мовай кожны дзень. Я сам, дарэчы, таксама.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Раенская гадавіна



**16 чэрвеня 1942 года гітлераўцы расстралялі ў Райску 149 чалавек. Гэтае масавае забойства было тым актам тэрору, які меў запалохаць мясцовае насельніцтва, пацыфікаваць яго, прымірыць з акупацыяй. Вёска была спалена, усе будынкі разбураны, была раскідана мураваная царква, з вуліцы быў выдзерты брук, вёска Райск мела счэзнуць назаўсёды.**

Аднак уцалелыя людзі, якія былі разагнаны па свеце, пасля выгнання гітлераўцаў вярнуліся на родныя папялішчы і вёска Райск зноў паднялася да жыцця. Штогод у гадавіну трагедыі, 16 чэрвеня, у раенскай царкве адбываецца памінальнае набажэнства за ахвяры злачынства. Такое набажэнства адбылося і сёлета. У царкве была адслужана літургія, пасля якой вернікі адправіліся хрэсным ходам на брацкую магілу, дзе раенскі настаяцель Яраслаў Годун адслужыў малебен; шэсце і памінальную службу суправаджаў царкоўны набат.

Няшмат людзей асталося ў Райску, маладое пакаленне раян раз'ехалася па свеце. І не заўсёды тыя нашчадкі маюць магчымасць удзельнічаць у памінанні, якое сёлета выпала ў аўторак; частка з іх малілася ў нядзелю. А ў дзень гадавіны раенская царква памяркоўна запаўнялася вернікамі — пажылымі жыхарамі вёскі і тымі іх нашчадкамі, якія пражываюць недалёка і змаглі ў будзённы дзень прыехаць на магілу родных. Вёска дэмаграфічна абяссілела да той ступені, што ўжо ледзь удалося знайсці мужчын, якім пад сілу несці харугвы. А да прычашчэння прыступіла толькі двое дзетак прывезеных з Беластока...

У набажэнстве прысутнічала войт Бельскай гміны Раіса Раецкая. Яўгенія Шумская, якая традыцыйна з'яўляецца душой бадай усіх раенскіх мерапрыемстваў, паказала мне жанчыну ў чорным касцюме, інфармуючы, што гэта пастар з Германіі, якая ўжо не ўпершыню моліцца з раянамі за ахвяры сваіх супляменнікаў...

Пасля набажэнства ў тамашнім вясковым доме культуры быў памінальны пачастунак. У яго ходзе былі ўзняты некаторыя актуальныя пытанні, у тым ліку і наконт упарадкавання брацкай магілы. Некаторыя раяне хочуць, каб астаўся толькі адзін супольны намагільнік, бо стаіць там і два ці тры сямейныя крыжы. Войт Раіса Раецкая адказала на гэта, што зняць тыя крыжы магчыма толькі за згодай сямейнікаў тых, што іх стаўлялі, а не ўсе згодныя пазбывацца свайго асабістага ўшанавання найбліжэйшых. Гэтаксама і высокія дрэвы, што растуць над брацкай магілай, маюць сваіх і праціўнікаў, і прыхільнікаў; гэтая дылема таксама складаная для вырашэння. Спадарыня Раецкая запэўніла прысутных, што ўсё-такі яна будзе заўсёды ставіцца станоўча да патрэб раян...

А я пацікавіўся асобай незвычайнай госці, германскай пратэстанцкай пастар Барбары Філер і папрасіў яе расказаць крышку пра сябе і яе дарогу ў Райск. Вось яе расказ.



Малебен на магіле



Пастар Барбара Філер

Нарадзілася я ў ландзе Рэйн-Пфальц, у трыццаці кіламетрах ад нямецка-французскай граніцы. Упершыню наведала я Польшчу ў 1974 годзе; тады мне было 18 гадоў. Мы ў прыватна зладжанай групе наведалі Асвенцім ды іншыя рэгіёны Польшчы, тады можна было падарожнічаць аўтастопам. Я падарожнічала з часткай маёй сям'і, якая тады пражывала ў ГДР. Мы тут пабачылі прыгожую краіну, бо тут рашылі супольна правесці водпуск, каб не толькі ў ГДР. Маім усходненямецкім сваякам Польшча падабалася. У Германіі штудзіравала я тэалогію і, крыху, адначасна славістыку. Навучылася гаварыць па-руску. Спатрэбілася выбраць другую славянскую мову і я стала вывучаць польскую. Я закончыла тэалогію і ў 1981 годзе з'явілася ў мяне магчымасць штудзіраваць на Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі. Быў гэта акурат вельмі цікавы перыяд. З праваслаўнымі ў мяне кантакт менавіта з 1981 года. У Варшаве я штудзіравала евангеліцкую тэалогію, але было мне цікава пазнаёміцца і з праваслаўным багаслоўем. Гэта пратэстантам вельмі займальна, бо мы больш секулярызаваныя, а праваслаўе прытрымліваецца хрысціянскіх вытокаў, а гэта мяне цікавіла. У нас інакш, але вельмі вабна пазнаёміцца і з іншымі канфесіямі — гэта вельмі творчае зацікаўленне. З таго часу ў мяне знаёмства і з мясцовай матушкай Ірэнай, бо яна таксама штудзіравала ў той час у ХТА. Мы з таго часу знаёмыя, хаця не трымалі пастаяннага кантакту, але недзе пяць гадоў таму ўдалося мне зладзіць падарожжа дэлегацыі нашага Касцёла з нашым прэзідэнтам — гэта адпаведнік біскупа. І я падумала, што калі дэлегацыя, то яна павінна быць сэнсоўнай і наведваць розныя месцы, у тым ліку гітлераўскіх злачынстваў. У міжчасе з інтэрнэту я даведалася, што здарылася ў Райску і я рашыла, што трэба сюды прыехаць, каб ушанаваць ахвяры і разам за іх маліцца. Для мяне быў гэта вельмі кранальны момант, калі я пабачыла, што тут здарылася. Цяжка паверыць, што людзі здольныя на такія злачынствы, на такую зверскасць. Мы, як немцы, бянтэжымся, вельмі саромеемся і ад гэтага вельмі цяжка на душы. Я тут ужо пяты раз, бо не хацела быць толькі турыстам, хацела пазнаёміцца з людзьмі і яны мне расказалі, як яны перажывалі гэтую трагедыю. Была я тут і тры гады таму, калі адзначалі сямідзесяцігоддзе трагедыі; тады быў тут і мітрапаліт. Не заўсёды была я тут у гадавіну. Я цяпер прыехала сюды прыватна, інфармуючы сваіх касцельных начальнікаў пра паездку.

Я працую ўжо трыццаць гадоў пастарам у Евангеліцкім касцёле ў Рэйн-Пфальцы. Наша касцельная ардынацыя дазволіла на святарства жанчын звыш шэсцьдзесят гадоў таму, бо пасля вайны не хапала мужчын для духоўнай службы. Калі я пачынала службу, нікога ўжо не здзіўляла святарства жанчын. Аднак у Праваслаўнай царкве роля святара зусім іншая і я не надта магу ўявіць жанчын у гэтай ролі. У нас гэта магчыма, бо інакш праходзіць набажэнства.

Мая парафія нялёгкая. Яна распалажана ў цэнтры горада Людвігсгафен — гэта даволі вялікі горад. У цэнтры горада, дзе знаходзіцца мая парафія, пражывае каля васьмідзесяці працэнтаў імігрантаў, падобна як у Франкфурце ці Штутгарце, бо ў цэнтры таннейшыя кватэры; там, напрыклад, вугальнае ацяпленне. Немцы, якія маюць больш грошай, не хочуць там жыць. У школе ёсць такія класы, дзе няма ніводнага нямецкага дзіцяці. Значыць у парафіі няма ўжо столькіх евангелікаў. У маёй парафіі тысяча васемсот душ і мяркуецца, што гэта замала, таму прадбачваецца скасаванне маёй парафіі і далучэнне да іншых. Цяпер быць духоўным нялёгка, але ў мяне вельмі ветлівыя людзі і яны прыходзяць, каб я не адчувала сябе адчужанай. Мае парафіяне гэта добрыя людзі, якія стараюцца ладзіць добры настрой, сямейную атмасферу. На набажэнствы пастаянна прыходзіць каля трыццаці-сарака асоб, але, напрыклад, на Раждаство прыходзіць трыста-чатырыста асоб, касцёл тады поўны. А ў прынцыпе па трыццаць-сорак чалавек. І гэта дастаткова для набажэнства; яшчэ пасля службы паразмаўляем. Гэта вельмі шчырыя людзі і я ахвотна з імі працую.

Расказ пастар Барбары Філер паказаў карціну з германскага жыцця, вельмі падобную на тое, што дзеецца ў нас. Адбываецца і тут, і там міграцыя, змешванне людзей разам і іхніх матэрыяльных і духовых здабыткаў.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**





# Нашы ў Ольштыне

У цудоўным краявідзе глыбокага васільковага неба, азалочанага моцнымі прамянямі сонца, якія адбіваліся ў люстры празрыстага возера Тырско ў Ольштыне-Гуткове ў казацкім пасяленні «Атаман» 6 чэрвеня 2015 года праводзіўся Дзень нацыянальных і этнічных меншасцей.

Згодна з абавязваючым у Польшчы законам, нацыянальнымі меншасцямі лічацца беларусы, чэхі, літоўцы, немцы, армяне, расіяне, славакі, украінцы і яўрэі, а этнічнымі — лэмкі, караімы, татары і ромы. Арганізатарамі ольштынскага мерапрыемства, прысвечанага меншасцям, з'явілася Ольштынскае таварыства нямецкай меншасці, якога прадстаўнікі віцэ-старшыня Аляксандр Баўкнехт і Анна Цынкульская ўрачыста прывіталі ўлады горада, ваяводства і міністэрства, прадстаўнікоў меншасцей і, між іншым, старшыню Згуртавання былых жыхароў Ольштына Готфрыда Гуфенбаха, гасцей ды ўдзельнікаў свята — хары і музычныя калектывы, якія выступілі са сваёй музычнай праграмай. Праект быў арганізаваны з датацыі Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі, самаўрада Вармінска-Мазурскага ваяводства, самаўрада горада Ольштына, Згуртавання даўніх жыхароў Ольштына з Гельзенкірхен і Баварскага міністэрства працы, грамадскіх спраў, сям'і і інтэлігенцыі.

Дзень нацыянальных і этнічных меншасцей пачаўся святой палявой імшой, якую адправіў ксёндз канонік Андрэ Шмаер. Пасля прывітанняў і прамоў улад на сцэне выступілі мастакі. Пачалі мастацкую частку вучні з калектыву песні і танца «Думка» са школы з украінскай моваю навучання ў Гурове-Ілавэцкім, танцавальны калектыў «Сага» з Барташыц, хор Нідзіцкага згуртавання нямецкай меншасці, хор «Легенда» са Ставігуды, танцавальная група з Нідзіцкага згуртавання нямецкай меншасці, хор «Vaterhaus» з Ольштынскага згуртавання нямецкай меншасці, ансамбль згуртавання ромскай культуры «Hitano». Сёлета ганаровымі гасцямі на гэтым мерапрыемстве была беларуская меншасць з Падляшша. Дарафей Фіёнік, старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны» ў Студзіводах зачытаў даклад на тэму беларусаў у Польшчы. На ольштынскай сцэне выступілі таксама беларускія калектывы. «Жэмэрва» са Студзіводаў праспявала песні з традыцыйнага фальклору падляшскіх беларусаў, падаравала таксама гаспадарам прыгожы каравай. «Падляшанкі» — жаночая група з Гарадзіска Нарваўскай гміны — праспявалі белым голасам многа традыцыйных падляшскіх песень. «Маланка» — калектыў з Бельска-Падляшскага, які сёлета адсвяткаваў юбілей 25-годдзя свайго існавання, прадставіў аўдыторыі беларускія песні, між іншым «Ручнікі», «Зязюля», «Медавуха». Была таксама прэзентацыя нашага рукадзелля — саломапляцення нашай майстрыхі Зоі Майстровіч з вёскі Рудуты Арлянскай гміны. Тамаш Суліма займаўся прылаўкам з кнігамі беларускіх выдавецтваў з Падляшша. Выпадкова ў Ольштыне сустрэлі мы і жыхароў Бельска-Падляшскага Люцыну і Андрэя Кшыўцаў, Марту Маліноўскую і Пятра Ваўранюка. Яны прыйшлі паслухаць наш канцэрт і прадставіць наша асяроддзе ў Ольштыне. Вялікай папулярнасцю карыстаўся прылавак з рэгіянальнай беларускай кухняй, якую прыгатавалі Юрка Шурбак і рэстаран «Падляшанка» ў Бельску-Падляшскім. Усе сабраныя маглі наведаць багаты стол, на якім знаходзілася мноства смачных страў: гарачая кішка, фаршынкі, свойскія вяндліны, смажаніны, шмалец з цыбуляй, свойскі хлеб, хлебны квас, халаднік і многа іншага смакоцця. Усе смачна частаваліся і для добрага апетыту не супраць былі выпіць чарачку. Наймалодшай удзельніцай ад беларусаў была Таіса Фіёнік, якой пяць з паловай гадоў. Яна цудоўна выглядала ў народным касцюме і ўжо ў аўтобусе спявала нам прыгожыя песні, а на сцэне выступіла з групай «Жэмэрва». Як радуецца сэрца, калі нашы дзеткі развіваюцца і хочуць узбагаціць нашу меншасць, а таксама культуру Польшчы. Наша існаванне можна пабачыць, між іншым, у мове, літаратуры і мастацтве, у песнях ды ў традыцыях, звычаях, і нават у кухні.

**Тэкст і фота Лідзіі МАЛІНОЎСКАЙ**




## http://www.maladost.lim.by

Пяцідзясятыя гады мінулага стагоддзя сталі своеасаблівым стартам шэрагу часопісаў для моладзі ў Беларусі. У адным з папярэдніх нумароў „Нівы" распавядалася пра дзіцячы часопіс „Вясёлка", што ўпершыню пабачыў свет у 1957 годзе. Але за чатыры гады да таго з'явіўся часопіс „Маладосць", які мусіў адлюстроўваць інтарэсы моладзі, якая ўжо ўступала альбо вось-вось уступіць у дарослае жыццё. Згодна з тымі часамі, такія часопісы ў Беларусі маглі быць толькі беларускамоўнымі, бо пры тых камуністах нацыянальнаму пытанню надавалася больш-менш патрэбная ўвага. Цяперашняй „цераспалосіцы" беларускіх СМІ — калі адзін артыкул па-беларуску, другі — па-руску, тады не было. Магчыма, тагачасным выдаўцам сучаснае „дзвюхмоўе" на адной старонцы магло падацца нечым незразумелым, кшталту сумесі дызельнага паліва з бензінам.

У такіх варунках і прыйшла да беларусаў „Маладосць" — ідэйна стэрылізаваны часопіс для маладых людзей таго часу, які дажыў да цяперашняга дня і з якім мы можам пазнаёміцца, калі выйдзем на яго старонку ў інтэрнэце, што месціцца па адрасе **http://www.maladost.lim.by.**

Калі зацікаўлены карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары вышэйпададзены адрас, то перад яго вачыма адкрыецца своеасаблівае аксамітна-чырвона-сіняе вылучэнне, з якога ў вочы кідаецца як назва часопіса, так і фігуркі закаханых, якія цалуюцца, пакінуўшы свае ровары пад дрэвам. Праўда, гэтая любоўная ідылія знаходзіцца ў закарэкаваным слоіку, што адразу наводзіць на думку, што гэта чыесці ўспаміны, успаміны аб маладосці. Падаецца, што для аздаблення сайта часопіса для моладзі больш падышло б нешта, звязанае не з успамінамі, а з актуальнай рэчаіснасцю.

Што ж тычыцца галоўнай старонкі сайта, то на ёй змешчаны некаторыя артыкулы, якія ўвайшлі ў апошні — чэрвеньскі нумар „Маладосці". Цікава, што назвы некаторых тэкстаў, якія знаходзяцца ўверсе пад словамі „Свежы нумар", з'яўляюцца гіперспасылкамі да гэтых артыкулаў у фармаце **pdf.**

Да гонару рэдакцыі „Маладосці" варта адзначыць, што да сваёй гісторыі яна ставіцца вельмі паважліва. Сведчанне гэтаму — рубрыка „Архіў", дзе мы можам прачытаць кожны нумар, што выходзіў з 2010 года. „Даўнейшыя нумары часопіса пакуль адлічбоўваюцца. Але калі вам спатрэбіцца які-небудзь з іх тэрмінова, звяртайцеся, калі ласка, у рэдакцыю", — адзначаецца ў самым нізе „Архіва". А яго працягам з'яўляецца старонка „Гісторыя", дзе рэдакцыя прадстаўляе і сябе, і часопіс. „Маладосць" — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс, выдаецца на беларускай мове ў Мінску з красавіка 1953 года", — распавядаецца там. Таксама ў „Гісторыі" падаецца пералік імёнаў і прозвішчаў галоўных рэдактараў, якія па чарзе больш за 60 гадоў узначальвалі „Маладосць".

Асобнай увагі варты першы нумар часопіса, які з'явіўся наступным месяцам пасля смерці Сталіна. Дзякуючы сучасным тэхналогіям, мы можам віртуальна пагартаць яго старонкі. Добрая частка з іх аддадзена альбо памерламу савецкаму дыктатару, альбо палітычным артыкулам. Разам з тым той першы часопіс карысна пачытаць сучасным людзям, якія, зразумела, жывуць у іншай рэчаіснасці. Аўтары тагачасных артыкулаў і вершаў — сведкі Другой сусветнай вайны падкрэсліваюць, што не хочуць, каб нешта падобнае зноў паўтарылася. Падобныя міралюбівыя тэксты сёння, на жаль, не ў модзе.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара



### Светлы след Кузьмы Чорнага

# 115 гадоў з дня нараджэння Кузьмы Чорнага

Беларускі пісьменнік Мікалай Раманоўскі, вядомы нам пад псеўданімам Кузьма Чорны, нарадзіўся 24 чэрвеня 1900 г. у маёнтку Лапацічы Слуцкага павета. Цяпер гэта вёска Борка-Бялевічы (Капыльскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і. Скончыў Цімкавіцкую народную вучэльню, у 1916 г. паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Скончыць семінарыю не ўдалося, бо ў 1919 г. польскія ўлады яе зачынілі.

Першыя вершы і артыкулы Кузьмы Чорнага былі надрукаваны ў 1920 г. У 1923 г. паступіў на літаратурнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ, дзе правучыўся два курсы. З 1923 г. — сябра літаб'яднання „Маладняк". Яшчэ студэнтам у 1924 г. пачаў працаваць у газеце „Беларуская вёска". У 1925 г. выйшлі першыя яго кнігі — „Апавяданні" і „Срэбра жыцця". У 1926-1931 гг. быў старшынёй літаратурнага згуртавання „Узвышша". Быў літкансультантам кабінета маладога аўтара пры Саюзе пісьменнікаў БССР. У „маладнякоўскі" перыяд творчасці пераважалі паэтычныя замалёўкі, эцюды, у якіх апяваецца харawство беларускай прыроды, услаўляецца духоўнае абуджэнне мужыка-беларуса. У апавяданнях „узвышаўскага" перыяду адбіваецца адкрыццё ўнутранага свету асобы, паглыбляецца псіхалагічны аналіз, паказваецца змаганне „за знішчэнне прыніжанасці чалавека перад чалавекам", сцвярджаецца думка пра сілу чалавека на зямлі, ствараюцца каларытныя вобразы „палявых людзей", якія ўвасабляюць лепшае ў нацыянальным характары, з'яўляюцца вобразы прадстаўнікоў маладога пакалення, схільных да філасофскіх разваг і актыўных грамадскіх учынкаў. У апавяданнях 1930-х гадоў Кузьма Чорны „авалодаў" вытворчай тэмай, паказваў працэс нараджэння новага чалавека — калектывіста, ударніка сацыялістычнай працы, выяўляў у ім прыкметы класавай прыналежнасці, што вяло да схематызму і збедненасці вобразаў.

У кастрычніку 1938 г. быў арыштаваны НКВД, прасядзеў у Мінскай турме 8 месяцаў, з іх 6 — у камеры-адзіночцы. Пісьменніка катавалі. Але ў чэрвені 1939 г. Чорнага выпусцілі з турмы. У час Другой сусветнай вайны згарэлі тры новыя раманы пісьменніка, а таксама грунтоўнае літаратуразнаўчае даследаванне паэмы Якуба Коласа „Новая зямля". З напісанага ў гэты трагічны час захавалася толькі п'еса „Ірынка". У 1941-1944 гг. Кузьма Чорны быў пераважна ў Маскве. Удзельнічаў у выданні газеты-плаката „Раздавім фашысцкую гадзіну". Працаваў над раманамі „Вялікі дзень", „Пошукі будучыні", „Млечны Шлях", аповесцямі (засталіся незакончанымі) „Скіп'ёўскі лес", „Сумліцкая хроніка", „Смага". Апошнія творы пісьменніка доўгія гады заставаліся ў рукапісах.

У гады вайны выйшлі зборнікі фельетонаў Кузьмы Чорнага „Кат у белай манішцы" і апавяданняў „Вялікае сэрца". У верасні 1944 г. вярнуўся ў Мінск, працаваў у рэдакцыі часопіса „Беларусь". 22 лістапада 1944 г. пісьменнік памёр, пахаваны на Вайсковых могілках у сталіцы Беларусі. Пражыў Кузьма Чорны ўсяго 44 гады, але пакінуў яркі і светлы след у айчыннай літаратуры. Вядомы ён і як перакладчык на беларускую мову твораў Аляксандра Пушкіна, Мікалая Гогаля, Аляксандра Астроўскага, Яраслава Гашэка, Уладзіміра Караленкі.

Іменем таленавітага пісьменніка названа школа ў Цімкавічах, дзе існуе прысвечаны яму народны музей, вуліцы ў Бабруйску, Мінску, Нясвіжы, Слуцку. У 2000 г. на Капыльшчыне адкрыты два мемарыяльныя знакі.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Сямейныя гульні

Усеагульная федэрацыя спорту для ўсіх арганізавала VII Еўрапейскі тыдзень спорту для ўсіх, які адзначаўся ад 26 мая (Дзень маці) да 1 чэрвеня (Міжнародны дзень абароны дзяцей). У рамках тыдня спорту быў разыграны чарговы XXI спартыўны турнір гарадоў і гмін. Пад патранатам прэзідэнта Рэчы Паспалітай 452 гарады і гміны ў рамках турніру арганізавалі імпрэзы для больш чым мільёна чалавек. Мерапрыемства праводзілася ў шасці групах паводле ліку жыхароў: 1 група — да 5 тыс. жыхароў, апошняя — звыш 100 тысяч. У першай групе на 121 беніфіцыентаў Падляшскае ваяводства прадстаўляла 13 гарадоў і гмін, у тым ліку Чаромха, Кляшчэлі, Мельнік, Чыжы, Нурэц-Станцыя.

Асноўнай мэтай імпрэзы была актывізацыя самага большага ліку грамадзян, асабліва тых, якія не займаюцца спортам, не практыкуюцца штодзённа, або не вядуць актыўнага ладу жыцця.

У рамках фінальнага мерапрыемства Усеагульная федэрацыя спорту для ўсіх арганізавала Сямейныя гульні, якія ў маштабе краіны праводзіліся ў назначаны дзень (21 чэрвеня ) і ў назначаным часе (15-18 гадзіна).

У нядзелю 21 чэрвеня было пераменнае надвор'е. То свяціла сонца, то неба закрывалі хмары і падаў кароткачасовы дождж. У Чаромсе-Станцыі праваслаўныя вернікі адзначалі прыхадскі фэст. Пасля на спартыўным стадыёне „Орлік" у 15 гадзін з'явіліся зацікаўленыя Сямейнымі гульнямі. Ахвоту ўдзельнічаць у спаборніцтвах прад'явіла дзевяць сем'яў. А імпрэза сапраўды была цікавай. Былі кідок мяшочкам у рухомую мішэнь, скачок з месца ў далечыню, гонкі троек з вобадам, „станожка" — сямейная гонка з шалем, кідок у абруч, футбольныя гульні, кідок берэтам ды іншыя. Гітом аказалася перацягванне каната. Змаганні былі заўзятыя. Пры гэтым было шмат смеху і ўцехі. Перамагла каманда асілка — Валеркі Смыка. Пераможцы паасобных канкурэнцый атрымалі адмысловыя граматы ды салодкасці. Удзельнікаў Сямейных гульняў Гмінная ўправа забяспечыла напіткамі, пячэннем і фруктамі. На заканчэнне спаборніцтваў камандам былі ўручаны памятныя граматы. Трэба адзначыць, што арганізаваннем гульняў па-майстэрску займаліся аніматарка „Орліка" і заадно настаўніца фізкультуры Ірэна Пашкоўская з сяброўкай Альжбетай-Янінай Вішэнка, сярэбранай медалісткай чэмпіянату краіны ветэранаў 2015 года. Сяброўка актуальна працуе настаўніцай фізкультуры ў адной з беластоцкіх школ, а ў Чаромху прыехала па запрашэнні Ірэны Пашкоўскай. Музычнае афармленне бескарысна, пры выкарыстанні ўласнай апаратуры зрабіў Юзік Храмінскі. І за гэта яму шчырае дзякуй!

XXI турнір гарадоў і гмін VII Еўрапейскага тыдня спорту завяршыўся. Усеагульная федэрацыя спорту аб'явіла афіцыйныя вынікі. Крытэрыем пры ацэнцы быў лік атрыманых пунктаў. А вось як запрэзентаваліся прадстаўнікі Падляшша ў першай групе (г.зн. да 5 тыс. жыхароў) у маштабе краіны (Бельскі, Гайнаўскі і Сямятыцкі паветы): 9 месца — Браньск (264 пкт.), затым адпаведна: 13 — Чаромха (257), 29 — Кляшчэлі (219), 33 — Мельнік (207), 73 — Чыжы (73), 120 — Нурэц-Станцыя (11). Для першых 19 пераможцаў у маштабе краіны былі прызначаны грашовыя ўзнагароды. Такім чынам Браньск атрымаў чатыры тысячы зл., а Чаромха — тры тысячы. Віншуем пераможцаў!





Пераможцы па кідку берэтам з Ірэнай Пашкоўскай (з левага боку), побач – Альжбета-Яніна Вішэнка

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

## Грамадская кампанія футбалістаў



Каманда „Д-р Туш" – чэмпіён свету па балотным футболе (пяты злева стаіць Міраслаў Самасюк).

Фота Ірэны Пашкоўскай

З 6 па 14 чэрвеня праходзілі III Дні сяброў футбола, спалучаныя з грамадскай акцыяй „Супольна выйграваем з ракам грудзей". У рамках гэтай кампаніі на спартыўным стадыёне „Орлік" у Чаромсе 10 чэрвеня быў арганізаваны футбольны матч паміж камандамі „Калеяж" (Чаромха) і „Д-р Туш" (Беласток).

Перад пачаткам матча ўдзельнікі турніру паказалі раку грудзей ружовую картку. Футбалісты ігралі дзеля здароўя жанчын. Перамаглі чаромхаўскія чыгуначнікі вынікам 9:7. Варта адзначыць, што 13 чэрвеня каманда „Д-р Туш" заваявала званне чэмпіёна свету 2015 года па балотным футболе. У балотнай камандзе выступае таксама старшыня чаромхаўскай футбольнай каманды „Калеяж" Міраслаў Самасюк. Гэта вялікі гонар як Беласточчыне, так і Чаромхаўскай гміне. Зараз пераможная каманда „Д-р Туш" рыхтуе *Swampions Soccer League* — турнір, які мае на мэце папулярызацыю балотнага футболю і стварэнне польскім футбалістам магчымасці пазмагацца з замежнымі камандамі. Мерапрыемства адбудзецца 25 ліпеня ў Чаромсе.

Другі матч у рамках той жа кампаніі праходзіў на „Орліку" 13 чэрвеня. Спаборнічалі мясцовыя каманды „Калеяж" і „Калеяж-юніёр". Перамагла каманда маладых вынікам 3:0. Віншуем!

**(ус)**

## Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | | | | | | | | | |
| 3 | | 4 | | | | 5 | | | | | 6 | | | |
| | | | | | | | | 7 | | 8 | 9 | | 10 | |
| 11 | | | | | | 12 | | | | 13 | | | | |
| 14 | | | | 15 | | | | | 16 | | | 17 | | |
| | | 18 | | | | 19 | | | 20 | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | 21 |

1. рыбак, 2. славацкая грашовая адзінка, 3. лічэбнік з пінскай ракі, 4. справе вянец, 5. дадатак да душы, 6. італьянскі род майстроў струнных інструментаў з Крэмоны, 7. бачанне, 8. мястэчка над ракой Лівец з сярэдневечным замкам, 9. кадэбэшнік Івана Грознага, 10. гідратэхнічнае збудаванне на канале для пропуску суднаў, 11. маці паніча, 12. разбурэнне ўмацавання ўзрывам, 13. дзяржаўны парадак, 14. каталіцкая літургія, 15. супраціў, забарона, 16. партнёрка яго, 17. ядавітая індыйская змяя, якая... мае горад на рацэ Мухавец, 18. напр. Андрэй Баболя або святы Войцех, 19. цвіце ў купальскую ноч, 20. вакальнае мастацтва, 21. літаратурнае прозвішча Эдзі Каган.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — савецкая калгасная пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 23 нумара**

Век, гуд, жулік, зяць, локаць, печ, роля, свініна, тунец, час, юрта, Юта.

Рашэнне: **На свежую кветку пчолка ляціць, а на старую і чорт не глядзіць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# 28.06 — 04.07

**(22.03. — 20.04.)** 27-29.06. могуць моцна пакрыжавацца твае справы. У пачуццях выкажы ініцыятыву. Дай сябе спакусіцца рамантычнай прыгодай. Дацані клопат сямейнікаў. Не паддавайся стрэсу. Варта стартаваць з новымі задумамі на працы.

**(21.04. — 21.05.)** Адкрыецца новы раздзел у тваім жыцці — пачуццёвым, сямейным. Добры час на заручыны, вяселле і хадайніцтва за новую пасаду ці павышэнне. Шукаеш партнёра? У ліпені нічога не зменіцца — будзеш лішне патрабавальны. З 3.07. (да 7.07.) маеш шанц падпісаць карысную дамову ці пераканаць іншых да твае думкі. Звяртай увагу на свае патрэбы. Карыстайся прыхільнасцю людзей. Дбай аб рух і дыету. Будзеш мець што дзяліць.

**(22.05. — 22.06.)** Супакоішся, станеш больш талерантным для іншых. 28-30.06. не ўлазь нікому ў шкоду. З 2.07. добры час на вучобу, здаванне экзаменаў і розныя курсы. Заззяеш перад выкладчыкамі! Многа людзей будзе цябе падтрымліваць і верыць у цябе.

**(23.06. — 23.07.)** У канцы чэрвеня прыліў жыццёвых сіл. Калі шукаеш кахання, перайме ініцыятыву, каб не прапусціць чагосьці важнага. Пакарыстайся натуратэрапіяй у лячэнні сваіх суставаў. Дома чакае цябе многа змен, некаторыя справы спыняцца ў мёртвым пункце, іншыя зваляцца на галаву. На працы будзеш творчы.

**(24.07. — 23.08.)** Шмат дасягненняў у кампанейскім жыцці. Інакш глянеш на справы, якія нядаўна каштавалі табе многа нерваў. Рызыкні, будзь больш ініцыятыўным, каб не ўпусціць шанцаў на вялікае каханне. Пільнуйся ад плётак. Дбай аб сэрца і дыету. У прафесійных справах не бойся прызнацца да памылак.

**(24.08. — 23.09.)** 27-30.06. — прадбачваюцца нервовыя і знеахвочваючыя дні; можаш даведацца пра невясёлую сітуацыю якіхсьці тваіх знаёмых. З 1 ліпеня пачне вельмі добра табе ўдавацца ў міжасобасных кантактах. Пазнаёмішся з людзьмі, з якімі варта пачаць супольную дзейнасць. Настрой някепскі. Але і лішні апетыт! Не раскідвайся касай.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш напоўнены энергіяй, зробіш вялікае ўражанне на іншых асобах, ад якіх залежыш. Гэта ідэальны момант, каб зрабіць штосьці для свайго прэстыжу або павышэння сваіх кваліфікацый. Будзь шчыры ў пачуццях. Міла дома, знойдзеш вырашэнні. Форма ненайлепшая, але не ашчаджвай сябе. Сцеражыся злодзеяў.

**(24.10. — 22.11.)** 1-4.07. вельмі дынамічны перыяд. Стукнеш камусьці па носе, хто думаў, што ты пакаўзнешся: гэта ён прайграе і прызнаецца, што лепшы ты. Шукай кахання. Дома і сярод сяброў уводзь змены і карыстайся парадамі. У ліпені будзеш вельмі моцны — аж да 23.07. уводзь новыя навыкі, дыету. У фінансах дзейнічай абдумана.

**(23.11. — 22.12.)** Апошнія дні чэрвеня прынясуць канфлікты з сябрам або калегам. Азірайся за каханнем — хтосьці, здавалася б, малавідны можа аказацца самым-самым! Не адмаўляйся ад сустрэч. Старайся як найбольш варушыцца, будзеш здаравейшы і ў лепшым настроі. На працы не будзе спакойна, бо будуць абавязкі, але працуй сумленна. 2-6.07. знакаміты час для падвядзення спраў і вызначэння новай сцежкі.

**(23.12. — 20.01.)** 27-30.06. скрупулёзна пільнуй сваіх інтарэсаў, не афармляй цяжкіх спраў, адпачывай. Памятай аб здзяйсненні абяцанняў. 1-3.07. будзеш аказваць уплыў на людзей, можаш шмат дасягнуць, бо не дасі сябе выкінуць з сядла, а ў важнай справе адкрыюцца табе вочы. Паафармляй справы ў натарыуса.

**(21.01. — 19.02.)** 27-30.06. фантастычныя міжасобасныя адносіны, у пачуццях ажыўленне, зможаш аформіць важныя рашэнні, лёгка зменіш тое, што табе мяшае. Ідылія ў пары. Старайся ісці на кампраміс. Дома шчасце будзе пераплятацца з хвілінамі горычы — адчакай горшы час. Будзеш моцны і гартоўны, задбай таксама аб сваю красу. Не пазычай грошай.

**(20.02. — 21.03.)** У першым тыдні ліпеня будзеш пабуджаны да дзеяння, зрэалізуеш штосьці, што доўга над табою ўжо вісела. Пільнуйся ад благіх языкоў — хтосьці схоча зашкодзіць тваёй пары. Калі ты ў новай пары, правядзеш з каханай асобай многа цудоўных незабыўных хвілін. У сям'і і сярод сяброў будзь больш спантанным. Раскладвай свае сілы. Калі ты сядзеў на дыеце, цяпер пільнуйся, каб не патаўсцець. Шукай новай працы ці падзаработкаў — калі будзеш актыўны, прапановы пасыплюцца як з рукава.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1000 egz.

# Аб'яднанне АБ-БА падводзіць вынікі



Мерапрыемства, прысвечанае падвядзенню вынікаў артыстычнай працы дзяцей і моладзі Аб'яднання ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА ў 2014/2015 навучальным годзе пачалося ў 17 гадзін на сцэне Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку пры зале напоўненай як пры найбольш прэстыжных спектаклях, якіх культурнаму чалавеку нельга прапусціць.

Мерапрыемства ладзілася дзякуючы падтрымцы Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, Управы горада Беластока, Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства і Радыё Рацыя.

— Як я кахаю сваю працу! — прызналася на фейсбуку позняй непраспанай ад хвалявання ноччу віцэ-старшыня аб'яднання АБ-БА Аліна Ваўранюк, настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе № 4 у Беластоку і рэжысёр, выхаваўца маладых беларусаў. І паказала ў інтэрнэце фільмік «Мае Дзеці». Тыя найстарэйшыя Аліныны дзеці — ужо студэнты (у той дзень абараніла ліцэнзійны дыплом Ганна Пякарская), і відаць іх у школе і на рэпетыцыях яшчэ малечамі. Усхвалявалася «трошку» ад таго фільма і старшыня аб'яднання Кацярына Паўлоўская,





мама двух найменшых артыстаў, якая вяла сустрэчу ў тэатры. Усё адбывалася першы раз на сцэне сапраўднага драматычнага тэатра, перад агромнай аўдыторыяй. Але вучні звыкліся са сцэнай ужо з беларускага садка.



Падводзіліся вынікі працы ўсіх пазаўрочных заняткаў, якія вядзе аб'яднанне АБ-БА. За гэты час вяліся дыскусійныя клубы, розныя майстар-класы, летнікі, выйшаў поўны адукацыйны пакет для настаўнікаў беларускай мовы для пачатковых класаў 1-3. Падрыхтаваны былі і паказаны чатыры спектаклі — некаторыя першы раз на сцэне — і песні ў выкананні вучняў — дзяцей з першага па шосты класы. Сваю творчасць прэзентаваў Тэатральны гуртох «Гульня ў тэатр», а таксама наймалодшы гурт «Баламуткі». Заспявалі пераможцы Першага агляду беларускай песні аб'яднання АБ-БА. Як заўсёды, развіталіся з выпускнікамі ды дзякавалі і настаўнікам і бацькам, якія не шкадавалі часу і матэрыяльных сродкаў дзеля падрыхтоўкі паказу і не толькі для гэтага. Сустрэчу ад моладзі вялі Зося Конюх, Нюта Карнілюк, Бася Лук'янюк, Юлька Іванюк і Наталька Савіцкая з шостага класа ПШ № 4 у Беластоку.



Агляд пачалі песняй «Белы караблік» на словы Віктара Шведа, якую выканала лаўрэатка песеннага агляду Дар'я Каспэрук, а падыгрываў ёй на гітары Ясь Васькоўскі. У ПШ № 4 з 1997 года працуе тэатральны гурток «Гульня ў тэатр», ад пачатку пад кірункам настаўніцы беларускай мовы Аліны Ваўранюк. З 2011 года супрацоўнічае ён з прафесіяналам — тэатральныя майстар-класы з гуртком вядзе акцёр тэатра імя А. Вянгеркі Бернард Мацей Баня. У гэтым навучальным годзе працавалі чатыры тэатральныя групы. Вучні першага і другога класаў выступілі са спектаклем «Цацачны баль» на тэкст Зофіі Вуйцік у перакладзе Аліны Ваўранюк. 28 траўня г.г. аб'яднанне АБ-БА ўпершыню сарганізавала конкурс беларускай песні для вучняў ПШ № 4 у Беластоку. Вучні самі падбіралі рэпертуар, самі рыхтаваліся да выступаў. Былі тры катэгорыі выступоўцаў — салісты малодшыя, салісты старэйшыя і групы. Удзельнікі конкурсу атрымалі дыпломы і ўзнагароды. Першыя месцы заваявалі былі Марта Васькоўская і Наталька Харужая, але для ўсіх удзельнікаў былі ўзнагароды. Пераможцы выступілі паспяхова і прыгожа, пад бурныя апладысменты публікі і радасныя выкрыкі гадавалай дзяўчынкі. А сапраўдны фурор выклікалі «кацячыя песні» з пастаноўкі «Каты» ў выкананні вучняў ІІ-ІІІ класаў, у адмысловых строях, ад шэрага сумнага коціка, да гуляшчай кісы-какеткі, вельмі прадуманых, пашытых з фантазіяй і прыгожа. Асаблівы фурор выклікала песня пра вяселле ката, з ляльмамі ката Мікіты і маладзіцы Муркі-Муркіты, у выкананні Натальні Філіповіч. Сярод аўтараў тэкстаў — Аліна Ваўранюк, Міра Лукша, Леанід Дранько-Майсюк, Кастусь Кірыенка, Леанід Пранчак, а музыку да большай часткі песень напісала Анна Бабік. З п'есай «Крошачка» ў апрацоўцы Аліны Ваўранюк выступілі вучні чацвёртага класа, з выдатнай роляй Натальні Харужай як эльфа Крошачкі, вядомай з казкі Андэрсена пра прыгоды малюсенькай дзяўчынкі. Выдатныя касцюмы і ў гэтай казцы, і ў дынамічна і з гумарам сыграных сучасных «Чырвоных шапачках» — заслуга бацькоў маладых акцёраў, сяброў аб'яднання. Найстарэйшая моладзь школы — выдатныя і выразістыя акцёры (якія нават у адной асобе могуць выступіць за цэлы лясны хор — Дзям'ян Хаманюк) ужо пакідае муры сваёй «чацвёркі» — і з імі развіталіся ўсе ўрачыста, і з узнагародамі. А з групы «Баламуткі» са Студыі фальклору і беларускай песні, якую вядзе цяпер Кацярына Жамчужнікава, жвавага і складнага хору, можна вылучыць і яркія ды таленавітыя індывідуальнасці, па якіх можна спадзявацца ў будучыні высокіх палётаў не толькі ў песні. Граматы, неспадзеўкі, падарункі ды словы гарачай падзякі чакалі не толькі вучняў, але і бацькоў, а спадарыня Аліна атрымала свой партрэт.

Кацярына Паўлоўская, старшыня Аб'яднання: — Кожны ў аб'яднанні «АБ-БА» за штосьці адказвае. Гэта наша супольная праца і праца кожнага паасобку. Дзеці выступалі, спявалі. Цешыць, што яны з такой радасцю гэта рабілі. Я думаю, што менавіта праз гульню дзяцей можна многаму навучыць. На канікулах сваю працу не спыняем. Неўзабаве адбудзецца байдарачны паход, летнік, а таксама прэм'ера дыска праекта «25-АБ-БА-аркестр» на XXVI «Басовішчы». Да наступных поспехаў!

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

ISSN 0546-1960